ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 20 (2546)
ПЯТНІЦА
14
мая 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Вечная загадка чароўнасці самых просценькіх матываў! Блікі ад зграбных постацей на асфальце пасля дажджу... Настрой нечаканай сустрэчы... Бясконца паўтараючыся, жыццё вечна дорыць новае. Ды што гаварыць! Лінагравюра В. Ягорава «Сяброўкі» здольная пра многае расказаць сама. Пра што словамі — не так проста...

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ТАЛЕНТ І НАТХНЕННЕ — НАРОДУ

## II УСЕСАЮЗНЫ З'ЕЗД КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

**Слаўны шлях барацьбы і перамог, пройдзены Краінай Саветаў, адлюстраваны ў лепшых творах савецкага кіно. Ад штурму Зімняга да зорных стартаў — такая кінапанарама гераічнай эпохі, летапіс першай у свеце дзяржавы, якая пабудавала сацыялізм і стварае камуністычнае грамадства.**

**Радзіма высока ацаніла заслугі шматнацыянальнага атрада майстроў савецкага кінамастацтва. Сцяг Саюза кінематаграфістаў СССР упрыгожыць вышэйшая ўзнагарода — ордэн Леніна.**

**Цяпер, у год уступлення краіны ў дзевятую пяцігодку, кінематаграфісты жывуць аднымі думкамі, аднымі імкненнямі з народам, які ажыццяўляе гістарычныя рашэнні XXIV з'езда нашай партыі. «...Чым больш цесная сувязь мастака з усім шматгранным жыццём савецкага народа, тым больш правільны шлях да творчых дасягненняў і ўдач» — гэтыя словы Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева маюць прамыя адносіны і да майстроў экрана, якія сабраліся на II Усесаюзны з'езд. Ён адкрыўся 11 мая ў Вялікім Крамлёўскім палацы.**

### Саюзу кінематаграфістаў — ордэн Леніна

За заслугі ў развіцці савецкага кінамастацтва і адзначаючы ўклад савецкіх кінематаграфістаў у камуністычнае будаўніцтва, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР Указам ад 10 мая 1971 года ўзнагародзіў **Саюз кінематаграфістаў СССР** ордэнам **Леніна.**

**У прэзідыуме — сустрэтыя апладысментамі таварышы В. В. ГРЫШЫН, А. П. КІРЫЛЕНКА, А. М. КАСЫГІН, Ф. Д. КУЛАКОЎ, К. Т. МАЗУРАЎ, М. А. СУСЛАЎ, А. М. ШАЛЕПІН, Ю. У. АНДРОПАЎ, П. Н. ДЗЕМІЧАЎ, Д. Ф. УСЦІНАЎ, І. В. КАПІТОНАЎ, К. Ф. КАТУШАЎ, Б. М. ПАНАМАРОЎ, старшыня Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС Г. Ф. СІЗОЎ. Разам з імі вядомыя дзеячы савецкага кіно, кіраўнікі творчых і грамадскіх арганізацый.**

**З'езд адкрывае кінарэжысёр С. А. Герасімаў. Ад імя ўсіх савецкіх кінематаграфістаў ён выказвае гарачую ўдзячнасць роднай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Савецкаму ўраду за высокую ўзнагароду — ордэн Леніна, якой удастоен Саюз кінематаграфістаў СССР.**

**Пад бурныя апладысменты залы з'езд выбірае ганаровы прэзідыум у складзе Палітбюро ЦК КПСС.**

**Выбіраюцца рабочыя органы з'езда.**

**Старшынствуючы С. А. Герасімаў паведамляе, што на з'езд прыбылі госці — прадстаўнікі кінематаграфій брацкіх сацыялістычных краін.**

**Прысутныя ўшанавалі памяць памёршых майстроў кіно.**

**Слова для справаздачнага даклада праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР «Аб стане і задачах савецкага кінамастацтва ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС» даецца першаму сакратару праўлення Л. А. Куліджанаву.**

**Месяц таму назад, сказаў Л. А. Куліджанаў, закончыў сваю работу XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. З'езд прыняў сапраўды гістарычныя рашэнні. Вялікае месца ў Справаздачным дакладзе ЦК КПСС, зробленым таварышам Л. І. Брэжневым, у выступленнях дэлегатаў, як вядома, занялі праблемы літаратуры і мастацтва. У кіраўніцтве партыі мы бачым рашучую ўмову ідэйнай чысціні, партыйнай мэтанакіраванасці і выхаваўчай дзейнасці мастацкай творчасці.**

**Роллю і месцам кіно ў жыцці людзей вызначаецца мера нашай адказнасці перад часам, перад народам, падкрэслівае дакладчык. Ён прыводзіць лічбы, якія сведчаць аб велізарнай папулярнасці кінамастацтва: кожны дзень кінатэатры краіны наведваюць 13—14 мільёнаў гледачоў, а кожны год — амаль пяць мільярдаў.**

**За гады, якія мінулі з установчага з'езда Саюза кінематаграфістаў СССР, наша краіна адзначыла вялікія даты — 50-годдзе Кастрычніка і 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна. І натуральна, ленінская і гісторыка-рэвалюцыйная тэма заняла вядучае месца ў творчасці кінематаграфістаў апошніх гадоў.**

**У фільмах пра Леніна, пра рэвалюцыю, пра класавыя бітвы мінулага пастаянна адчуваецца імкненне звязаць дзень цяперашні і дзень мінулы ў безупыннасці рэвалюцыйных традыцый народа — першаадкрывальніка сацыялізма, працягвае прамоўца. Гэта імкненне праяўляецца як у ідэйнай накіраванасці твораў, так і ў іх мастацкім вырашэнні: сучасны аналіз гісторыі, верагоднасць адлюстравання сумяшчаюцца з абнаўленнем кінамовы. Традыцыі рэвалюцыйнага кіно 20-х і 30-х гадоў развіваюцца з улікам духоўнага і эмацыянальнага вопыту аўдыторыі, падзеі мінулага і характары іх удзельнікаў, захоўваючы свае канкрэтныя гістарычныя асаблівасці, набліжаюцца да сучаснага гледача, актывізуючы ў яго душы пачуццё дачынення да вялікай справы рэвалюцыі.**

**Глыбока станоўчы сэнс мела таксама больш шырокае звяртанне савецкіх кінематаграфістаў да падзей Айчыннай вайны. Характэрна, што над фільмамі пра Айчынную вайну працуе ўся наша шматнацыянальная кінематаграфія.**

**Звяртанне да падзей Вялікай Айчыннай вайны дало магчымасць стварыць шэраг значных твораў. У шэрагу лепшых фільмаў створаных за апошні час, дакладчык называе шматсерыйную кінаэпапею «Вызваленне».**

**Істотнае месца ў сучасным кінарэпертуары займаюць карціны, пастаўленыя на аснове твораў літаратурнай класікі. Сярод удалых экранізацый апошніх гадоў — «Вайна і мір», «Браты Карамазавы», «Гамлет», «Кароль Лір», «У багатай пані».**

**Аднак галоўным напрамкам творчасці з'яўляецца мастацкая распрацоўка сучаснай тэмы, падкрэслівае Л. А. Куліджанаў. Звяртанне да сучаснасці, актыўнае ўварванне ў жыццё — абавязковая ўмова паспяховага развіцця савецкага кінамастацтва.**

**Далей ён гаворыць аб працэсе збліжэння і ўзаемнага ўзбагачэння кінематаграфій брацкіх савецкіх народаў. Агульнасць эстэтычных праблем, якія звязваюць народы, асабліва выразна праяўляецца ў фільмах, прысвечаных сучаснасці. У іх прасочваецца імкненне майстроў экрана паказаць будаўніка новага грамадства як дзейсную сілу гістарычнага працэсу.**

**Першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў звяртае ўвагу на тое, што яшчэ мала ствараецца фільмаў пра рабочы клас, пра людзей савецкай вёскі. Неабходна ўлічваць тыя змены, якія адбываюцца цяпер у вёсцы.**

**У дакладзе вялікая ўвага ўдзелена праблеме адзінства формы і зместу, пытанням павышэння ідэйнага і мастацкага ўзроўню фільмаў, іх выхаваўчага ўздзеяння на гледача, іх грамадскай ролі.**

**Велізарнае значэнне для пашырэння і развіцця ўсіх відаў кінематаграфіі набыло тэлебачанне. Вялікая яго аўдыторыя — у насельніцтва цяпер ёсць больш за 37 мільёнаў тэлевізараў.**

**Многае ў кінематаграфіі, працягвае прамоўца, залежыць ад матэрыяльна-тэхнічнай базы фільмавытворчасці і пракату.**

**У развіцці савецкага кінамастацтва, у далейшым павышэнні яго ідэалагічнай актыўнасці, у стварэнні высокай узаемнай патрабавальнасці важнае месца належыць кінакрытыцы. У дакладзе адзначаецца неабходнасць далейшай актывізацыі кінакрытыкі, больш глыбокай распрацоўкі праблем тэорыі кіно.**

**Далей дакладчык гаворыць, што ва ўмовах несціхаючай ідэалагічнай вайны, якую вядзе супраць нас імперыялістычная прапаганда, мы не можам разглядаць нашы кінематаграфічныя справы ў адрыве ад усяго таго, што адбываецца на сусветным экране. Савецкая кінематаграфія выступае як сцяганосец і распаўсюджвальнік самых перадавых гуманістычных ідэй нашай эпохі.**

**Быў заслуханы даклад мандатнай камісіі з'езда. Цяпер у нашай краіне працуе больш за чатыры з палавінай тысячы членаў Саюза кінематаграфістаў. Гэта амаль у паўтара раза больш, чым іх было ў час установчага з'езда.**

**У спрэчках па справаздачных дакладах выступілі кінадраматург А. Я. Каплер (Масква), першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў Грузіі С. В. Далідзе, аператар М. М. Піліхіна (Масква) і іншых.**

**Кінематаграфістаў віталі артыст Б. П. Чыркоў, першы сакратар ЦК ВЛКСМ Я. М. Цяжэльнікаў. Затым выступілі сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў Узбекістана А. Э. Хамраеў, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў С. В. Сартакоў, акцёр У. В. Санаеў (Масква), рэжысёр С. І. Юткевіч (Масква).**

**Цёпла сустрэтыя прысутнымі, з'езд віталі кіраўнікі кінематаграфій брацкіх сацыялістычных краін: А. Торндайк (ГДР), Э. Пятроў (Балгарыя), Б. Дашдорж (МНР), Е. Каваляровіч (Польшча).**

**13 мая на ранішнім пасяджэнні дэлегаты прынялі рэзалюцыю з'езда. У ёй гаворыцца, што Другі з'езд кінематаграфістаў СССР горача адабрае гістарычныя рашэнні XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Вялікае месца ў Справаздачным дакладзе ЦК, з якім выступіў таварыш Л. І. Брэжнеў занялі пытанні развіцця мастацкай культуры. Рэзалюцыя адзначае, што матэрыялы з'езда партыі маюць неацэннае значэнне і для савецкага кінамастацтва. За апошнія гады майстры кіно дабіліся сур'ёзных творчых поспехаў. Створана нямала таленавітых, прасякнутых камуністычнымі ідэямі твораў. Асабліва радаснымі з'яўляюцца дасягненні кінематаграфістаў шэрагу саюзных рэспублік.**

**Разам з тым з'езд звяртае ўвагу на нявырашаныя задачы. Высокі абавязак кінематаграфістаў — аднавіць на экране вобраз нашага сучасніка, чалавека перадавых поглядаў, высокай ідэйнасці і духоўнай культуры, нястомнага працаўніка.**

**У рэзалюцыі гаворыцца: «Згуртаваны пад сцягам партыі Леніна калектыў савецкіх кінематаграфістаў поўны рашучасці з гонарам выканаць задачы, выстаўленыя перад ім XXIV з'ездам КПСС, дастойна адказаць новымі творчымі справамі на высокія запатрабаванні, якія прад'яўляюцца сёння да кінамастацтва савецкім чалавекам — будаўніком камунізма».**

**З'езд унёс змяненні ў Статут Саюза кінематаграфістаў.**

**Дэлегаты зацвердзілі даклад Рэвізійнай камісіі саюза.**

**Затым былі падведзены вынікі выбараў новага складу праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР і рэвізійнай камісіі саюза.**

●

**Дэлегаты з'езда ўсклалі вянкі да Маўзалея У. І. Леніна і да Магілы Невядомага Салдата.**

(Па матэрыялах ТАСС).

# НАРОД НАЗЫВАЕ ДАСТОЙНЫХ

Працягваецца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.

Старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны артыст СССР **Рыгор Раманавіч Шырма** названы кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Абідавіцкай выбарчай акрузе працаўнікамі калгаса імя Куйбышава Быхаўскага раёна.

Артыст Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Уладзімір Іосіфавіч Дзядзюшка** вылучан калектывам тэатра кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Кахоўскай выбарчай акрузе.

Земляробы калгаса «Перамога» Пінскага раёна на перадвыбарчым сходзе аднадушна назвалі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Загародскай выбарчай акрузе скульптара **Андрэя Ануфрыевіча Бембеля.**

Калгаснікі калгаса імя Леніна Петрыкаўскага раёна вылучылі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Петрыкаўскай выбарчай акрузе намесніка старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР **Івана Паўлавіча Мележа.**

Калектыў Пінскага экскаватарарамонтнага завода назваў сваім кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Пінскай — Усходняй выбарчай акрузе пісьменніка **Пімена Емяльянавіча Панчанку.**

На сходзе рабочых і служачых саўгаса імя Леніна Смалявіцкага раёна кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Смалявіцкай выбарчай акрузе вылучаны рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі **Уладзімір Уладзіміравіч Алоўнікаў.**

ПАЎВЕКА НАЗАД, 7—13 мая 1921 года, адбыўся першы Усебеларускі з'езд прафесіянальных саюзаў рэспублікі. На ўсіх этапах сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва прафесіянальныя саюзы цвёрда і паслядоўна праводзілі ў жыццё палітыку Камуністычнай партыі. Іх заслуга вялікая не толькі ў эканамічным, але і ў культурным будаўніцтве.

Прывяду характэрныя лічбы.

У 1921 годзе ў рэспубліцы было ўсяго 24 клубы і 33 бібліятэкі. Сёння толькі прафсаюзныя арганізацыі маюць 606 клубаў, дамоў і палацаў культуры, 916 бібліятэк з кніжным фондам у 5,5 мільёна тамоў, 10 620 чырвоных куткоў.

Культурныя ўстановы прафсаюзаў аказваюць вялікую дапамогу працоўным у павышэнні агульнаадукацыйнага і культурна-тэхнічнага ўзроўню, вядуць вялікую лекцыйную работу, прапагандуюць кнігу, развіваюць мастацкую самадзейнасць, арганізуюць кінаабслугоўванне.

Дзякуючы пастаяннай увазе і клопатам прафсаюзных арганізацый, многія ўстановы культуры значна павысілі ідэйны ўзровень сваёй работы, напоўнілі яе новым, больш багатым зместам, сталі сапраўднымі цэнтрамі камуністычнага выхавання.

Вялікі вопыт правядзення масава-палітычнай і культурна-асветнай работы накапілі яны ў ходзе падрыхтоўкі і правядзення 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі, 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, у перыяд падрыхтоўкі і работы XXIV з'езда КПСС.

Ва ўстановах культуры шырока праводзіліся кастрычніцкія і ленінскія чытанні, тэматычныя вечары, сустрэчы з ветэранамі Камуністычнай партыі, удзельнікамі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Вырасла сетка лекторыяў, значна павялічылася колькасць чытачоў прафсаюзных бібліятэк.

Работа многіх клубаў, дамоў і палацаў культуры зараз стала бліжэй да практычных задач вытворчых калектываў, больш змястоўнай і разнастайнай.

Важна адзначыць, што культурна-асветныя ўстановы прафсаюзаў значна актывізавалі работу па інтэрнацыянальным выхаванні працоўных, прапагандзе дружбы народаў нашай краіны. У многіх дамах і палацах культуры прафсаюзаў праводзяцца вечары дружбы, лекцыі, кіналекторыі. У 1970 годзе ў Палацы культуры Белсаўпрофа быў пачаты цыкл тэматычных вечароў пад агульнай назвай «Широка страна моя родная». У перыяд падрыхтоўкі да 50-годдзя ўтва-

# ІМ ПРЫСВОЕНЫ ГАНАРОВЫЯ ЗВАННІ

**За заслугі ў развіцці друку, тэлебачання і радыёвяшчання Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР групе работнікаў друку Беларускага тэлебачання і радыё. Сярод удастоеных звання — Аляксеева Таццяна Міхайлаўна, галоўны рэжысёр Беларускага радыё; Бастун Тамара Паўлаўна, дыктар Беларускага тэлебачання; Гарбачоў Міхаіл Васільевіч, намеснік сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР па літаратуры народаў СССР; Лісоўскі Аляксандр Уладзіміравіч — рэжысёр Гомельскай студыі тэлебачання; Троіцкая Марына Дзмітрыеўна, галоўны рэжысёр Беларускага радыё; Юрэвіч Мануіл Серафімавіч, галоўны кінааператар Беларускага тэлебачання.**

рэння СССР тут адбудуцца тэматычныя вечары, прысвечаныя кожнай з 15 саюзных рэспублік, з удзелам прадстаўнікоў братніх народаў. Заключны вечар гэтага цыкла намечана правесці як вялікае свята перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Адной з форм ідэйна-палітычнага выхавання, задавальнення ўзрастаючых культурных запатрабаванняў шырокіх мас з'явіліся народныя універсітэты. Іх узнікненне абумоўлена велізарнай цягай савецкіх людзей да ведаў, іх імкненнем яшчэ глыбей далучыцца да ўсіх багаццяў культуры.

хаванні працоўных. 76 калектывам прысвоена высокае званне народных, дзесяткі калектываў з'яўляюцца лаўрэатамі ўсесаюзных фестываляў.

Вялікай папулярнасцю ў гродзенцаў карыстаецца народны ансамбль танца Гродзенскага Палаца культуры тэкстыльшчыкаў «Раніца».

Сотні канцэртаў на сцэнах рабочых і сельскіх клубаў даў маладзёжны ансамбль танца «Юнацтва» Баранавіцкага баваўнянага камбіната.

Вялікай папулярнасцю карыстаецца народны ансамбль танца Палаца культуры Мінскага трактарнага заво-



## М. ДУБКОВА,

сакратар Беларускага савета прафесійных саюзаў

# ВЕРНЫЯ ЗАПАВЕТАМ ІЛЬІЧА

Адзін з першых такіх універсітэтаў у краіне быў створаны ў Гомелі — гэта універсітэт мастацкага выхавання пры Гомельскім палацы культуры чыгуначнікаў імя Леніна. Характэрнай асаблівасцю яго работы была і застаецца ініцыятыва і самадзейнасць, імкненне больш поўна задаволіць запатрабаванні слухачоў.

Прэзідыум ВЦСПС адобрыў вопыт работы гэтага універсітэта і зрабіў яго здабыткам прафсаюзных арганізацый усёй краіны.

Універсітэт працуе 14-ы год. На трох яго факультэтах — музычным, тэатральным і выяўленчага мастацтва штогод займаецца больш тысячы чалавек.

Цікава будуе сваю работу народны універсітэт навукова-тэхнічнага прагрэсу Магілёўскага завода «Электрарухавік».

Заслугоўвае ўвагі станоўчая работа народных універсітэтаў Бабруйскай швейнай фабрыкі імя Дзяржынскага, Мінскага тонкасуконнага камбіната, саўгасаў: «Брэсцкі» Брэсцкага раёна, «Багушэўскі» Сенненскага раёна.

Прафсаюзы садзейнічаюць развіццю творчых здольнасцей у кожным чалавеку, дапамагаюць росту народных талентаў.

Толькі ў мастацкай самадзейнасці рэспублікі ўдзельнічае звыш 360 тысяч рабочых, служачых і членаў іх сем'яў, якія аб'яднаны амаль у 19 тысяч гурткоў і калектываў.

За высокае выканаўчае майстэрства і вялікую работу па эстэтычным вы-

да, народны ансамбль песні і танца «Маладосць» Віцебскага Дома культуры мясцовай прамысловасці, народны агіттэатр «Усмешка» Дома культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя Куйбышава і многія іншыя калектывы.

Вялікай вядомасцю ў рэспубліцы і за яе межамі карыстаюцца беларускія самадзейныя мастакі і майстры народнай творчасці. Далейшаму развіццю іх талентаў, выяўленню сотняў невядомых народных мастакоў садзейнічаў Усесаюзны конкурс-выстаўка твораў народных умельцаў. У выстаўцы, якая адбылася ў рэспубліцы ў маі—чэрвені 1970 года, прынялі ўдзел 500 самадзейных майстроў, экспанавалася 1500 работ, звыш 800 з якіх былі прадстаўлены потым на Усесаюзнай выстаўцы ў Маскве. У гэтых работах ярка раскрыта разнастайнасць форм самадзейнага мастацтва, якое абапіраецца на народныя традыцыі. Многія работы беларускіх майстроў былі ўдастоены 1-й, 2-й і 3-й прэмій Усесаюзнай выстаўкі-конкурсу народных умельцаў.

Выпрабаваным сродкам камуністычнага выхавання з'яўляецца кіно. Прафсаюзы Беларусі маюць 553 кінаўстаноўкі, 123 аматарскія кінастудыі. Сёння 176 кінаўстановак бясплатна паказваюць навукова-папулярныя і хранікальна-дакументальныя фільмы.

У практыку работы многіх клубаў, дамоў і палацаў культуры трывала ўвайшлі кінафестывалі, кіналекторыі, тэматычныя паказы фільмаў. У юбілейным ленінскім годзе Белсаўпроф сумесна з Дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі правёў фестываль фільмаў, прысвечаных ленінскай тэматыцы.

З увядзеннем двух выхадных дзён яшчэ больш востра ўзнікла праблема арганізацыі адпачынку працоўных. Нямала працуюць у гэтым напрамку прафсаюзныя арганізацыі рэспублікі. На шэрагу прадпрыемстваў створаны штабы выхаднога дня. У многіх клубах, дамах і палацах культуры праводзяцца вечары адпачынку, цэхавыя, зменныя і сямейныя вечары.

Многія клубныя ўстановы рэспублікі: Палац культуры Мінскага трактарнага завода, Дома культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя В. В. Куйбышава, Мінскага аўтазавода, Гомельскі Палац культуры чыгуначнікаў вядуць вялікую работу па месцы жыхарства рабочых і служачых, у інтэрнатах і домакіраўніцтвах, на агітпляцоўках.

Прафсаюзныя арганізацыі і іх культурна-асветныя ўстановы праводзяць вялікую работу па выхаванні моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях. З гэтай мэтай шырока выкарыстоўваюцца заводскія музеі, маладзёжныя клубы па інтарэсах, паходы па месцах баёў, партызанскіх сцежках. Паходы па дарогах баявой славы зарадзіліся ў Беларусі ў 1964 годзе, напярэдадні дваццацігоддзя вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Па дарогах баявой славы тады прайшло каля 400 тысяч чалавек.

У сучасны момант прафсаюзныя арганізацыі рэспублікі і іх культустановы прыступілі да работы па прапагандзе і растлумачэнні працоўным рашэнняў і матэрыялаў гістарычнага XXIV з'езда КПСС, які намеціў велічную праграму камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Прафсаюзныя арганізацыі ставяць сваёй задачай, каб гэта работа вялася штодзённа і глыбока, каб для кожнага працоўнага рэспублікі рашэнні з'езда сталі баявой праграмай дзеянняў.

Мы заўсёды кіруемся знамянальнымі словамі У. І. Леніна, што прафсаюзы—гэта школа камунізма. Сёння ў гэтай школе—мільёны і мільёны працоўных. І няма ў нас, прафсаюзных работнікаў, больш ганаровага абавязку, чым служыць Яго Вялікасці рабочаму класу, быць вернымі запаветам Ільіча.



**АЛЯКСЕЕВА Таццяна Міхайлаўна.** У 1945 годзе скончыла Ленінградскі дзяржаўны тэатральны інстытут імя Астроўскага. З 1947 года — актрыса Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы. Адначасова супрацоўнічае на Беларускім радыё. З 1956 года — рэжысёр вяшчання для дзяцей Беларускага радыё.

Юным слухачам палюбіліся радыёпастаноўкі «Янкава ранне», «Данік дужэе», «Пісьмо Ільічу», «Чатыры ўрокі ў Леніна» і іншыя, пастаўленыя Т. Аляксеевай. Сталі папулярныя цыклы перадач «Рамантыкі», «Калыханка», «Алёнчыны гульні», у якіх таксама прымае удзел Таццяна Міхайлаўна.

**БАСТУН Тамара Паўлаўна.** З 1947 года працавала дыктарам на Беларускім радыё. З 1955—дыктар Беларускага тэлебачання. Вяла першую перадачу Мінскай студыі тэлебачання. Пастаянна вядзе цыклавыя тэлеперадачы «Панарама навін», «Пра час і пра сябе», тэлевізійны клуб «Колас», а таксама перадачы для вучняў «Тэлебачанне—школе».

**ГАРБАЧОЎ Міхаіл Васільевіч.** Нарадзіўся ў Беларусі. З 1941 года жыве і працуе ў Маскве. Перакладчык беларускай прозы. Зараз працуе намеснікам сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, сакратаром Савета па беларускай літаратуры пры праўленні СП СССР.

**ЛІСОЎСКІ Аляксандр Уладзіміравіч.** Закончыў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва ў Маскве. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1945 па 1963 гады працуе ў тэатрах краіны — Кішынёўскім рускім драматычным тэатры, Закарпацкім рускім драматычным тэатры, затым у Гомельскім абласным тэатры — яго дырэктарам. З 1963 года — рэжысёр Гомельскай студыі тэлебачання. Паставіў шэраг тэлепастановак, сярод іх — «Палёт» па аднайменнай п'есе Ул. Мехава, «Хлеб» паводле аповесці І. Шамякіна, «Гэта быў пачатак» па п'есе А. Маўзона.

**ТРОІЦКАЯ Марына Дзмітрыеўна.** У 1930 годзе скончыла драматычны тэхнікум у Мінску. З 1932 года—артыстка Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. З 1948 года працуе рэжысёрам на Беларускім радыё. Ею пастаўлены шэраг радыёспектакляў па творах беларускіх аўтараў. Сярод іх — «Бацькаўшчына» па рамане К. Чорнага, «Зорка Венера» па аповесці Б. Бур'яна, «Мяцежнае сэрца» па аповесці В. Панамарова і шмат іншых. Узнагароджана дыпломамі Усесаюзнага радыё.

**ЮРЭВІЧ Мануіл Серафімавіч.** Творчы шлях пачаў на кінастудыі «Беларусьфільм» у якасці асістэнта кінааператара. З 1966 года — кінааператар Мінскай студыі тэлебачання. З 1969 года — галоўны кінааператар Беларускага тэлебачання. Найбольш значныя работы — кароткаметражны мастацкі фільм «Кражонак», дакументальны поўнаметражны фільм «Мера любві», другая, трэцяя і пятая серыі кіналетапісу «Біяграфія маёй рэспублікі».

# ФОТААПОВЕСЦЬ АБ ПРАФСАЮЗАХ

Да 50-годдзя прафсаюзаў Беларусі творчая студыя «Фота і жыццё» Саюза журналістаў БССР выпусціла масавым тыражом ілюстраваны альбом «Прафсаюзы — школа камунізма».

Альбом адкрываецца артыкулам старшыні Беларускага савета прафсаюзаў М. Полазава «З ленінскай партыяй навекі».

Альбом — своеасаблівая фотааповесць — знаёміць чытача з дасягненнямі тройчы ордэнаноснай Беларусі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве. Змешчаныя тут нарысы, дыяграмы, фотаздымкі расказваюць таксама аб вопыце работы перадавых прафсаюзных арганізацый. Асобныя раздзелы прысвечаны развіццю мастацкай самадзейнасці, арганізацыі адпачынку працоўных, разгортванню спартыўнай работы і г. д.

Матэрыялы альбома паказваюць паслядоўную барацьбу прафсаюзаў БССР за мір, сацыяльны прагрэс і адзінства міжнароднага рабочага руху на рэвалюцыйных прынцыпах.

**Ул. ФРЭЙДЗІН.**

# ЮБІЛЕЮ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

З 8 па 17 мая ў Мінскай вобласці праходзіць дэкада самадзейнага мастацтва, арганізаваная Мінскім абласным Домам мастацкай самадзейнасці. У дэкадзе прымаюць удзел лепшыя калектывы дамоў і палацаў культуры горада Мінска і Палаца культуры жодзінскіх аўтамабілебудаўнікоў.

У гасцях у шахцёраў Салігорска пабывалі ансамбль аперэты клуба Мінскага абутковага вытворчага аб'яднання «Прамень» і агітацыйна-мастацкая брыгада Мінскага медыцынскага інстытута. На сцэне Палаца культуры Беларускага аўтамабільнага завода ў Жодзіна выступяць калектывы мастацкай самадзейнасці дамоў культуры 2-га цагельнага завода і тонкасуконнага камбіната, а жодзінцы са сваёй творчай справаздачай пабываюць у працоўных горада Барысава, дзе выступяць у гарадскім Доме культуры і ў парку культуры і адпачынку імя М. Горкага.

Канцэрты самадзейных артыстаў паглядзяць працоўныя Нясвіжа і гарадскога пасёлка Гарадзея, а 16 і 17 мая маладзечанцы ў Доме культуры чыгуначнікаў будуць прымаць мінчан.

Калектывы мастацкай самадзейнасці свае творчыя справаздачы прысвячаюць 50-годдзю першага Усебеларускага з'езда прафсаюзаў.

**Т. КУРЫЛА.**

ПАЗНАЁМІЎСЯ я з ім у другой палове дваццатых гадоў. Янка Журба жыў на перыферыі і прыехаў у Мінск у Дзяржаўную бібліятэку, каб знайсці ў старых выданнях вершы, якія ён не змог змясціць у першым сваім зборніку «Заранкі». Паездка Івана Якаўлевіча аказалася няўдалай: многае не знайшлося, некаторыя выданні,



# ШТРЫХІ ДА БІЯГРАФІІ

*ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Янкі ЖУРБЫ*

патрэбныя для паэта, меліся толькі ў Ленінградскай і Маскоўскай бібліятэках. Я ж быў рады сустрэчы са старэйшым нашым паэтам. Хацелася пагутарыць з ім, пачуць яго расказы пра паэтаў і пісьменнікаў пачатку нашага стагоддзя. Аднак Іван Якаўлевіч сумна ўсміхнуўся:

— На з'езды мы тады не збіраліся, адзіным ганарарам была радасць, што твой твор змясцілі ў друку, а наведваць адзін аднаго не было сродкаў.

Але сёе-тое ён усё ж расказаў — аб рэдактарскай дзелавітасці Янкі Купалы, аб тым, што Купала часта пісаў яму пісьмы, патрабаваў не маўчаць, «варушыцца», тварыць.

Пасля смерці Янкі Журбы, у 1964 годзе, я з болем прыгадаў нашу тую размову і захацелася зрабіць нешта для ўшанавання памяці сціплага працаўніка роднай літаратуры. Я знайшоў адрасы яго сваякоў і знаёмых, напісаў ім пісьмы, каб сабраць біяграфічныя матэрыялы. Ад інжынера Уладзіміра Яскевіча, які сябраваў і працаваў разам з Янкам Журбою, я даведаўся, што радзіму паэта, вёску Купніна, наведаў незадоўга да першай імперыялістычнай вайны Янка Купала і прабыў там некалькі дзён, што гэта сустрэча была запамінальнай для абодвух паэтаў.

Брат Я. Журбы Фёдар Якаўлевіч пісаў мне з Кіева, што жыццё ў маленстве было ў іх цяжкае, у бацькоў было ажно чатырнаццаць дзяцей. Бацька іх—Якаў Іванавіч займаўся сельскай гаспадаркай, адначасова быў і ганчаром, і печнікам, а кожнай вясною — і плытагонам. Маці — Соф'я Маркаўна ведала безліч народных песень і любіла літаратуру.

Тая сустрэча з Янкам Купалам натхніла Янку Журбу на шчырыя і простыя радкі, поўныя веры ў тое, «што ворагі ўсе згінуць, — нам сонца заблішчыць»:

Я цвёрда, шчыра веру,  
Я веру ўсёй душой,  
Што ўстанеш ты  
з нядолі,  
Край родны, мілы мой.

Янка Журба не толькі гаварыў аб мінулым, аб пройдзеным. Ён непарыўна быў звязаны з сучаснасцю і прадбачыў заўтрашні дзень:

Дала мне партыя  
натхненне,  
Адчуў я творчых дум  
узлёт,  
З уцехай сонечнай  
я слаўлю  
Да камунізма наш  
паход.

Прыемна, што памяць аб паэце жыве, што напярэдадні 90-годдзя з дня нараджэння выдавецтва «Народная асвета» выдала зборнік яго выбраных твораў, па радыё прагучалі яго лепшыя творы, а ў школах і вну адбыліся літаратурныя вечары.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

### Васілю ВІТКУ — 60 гадоў

**ПАСЛЯЗАЎТРА** спаўняецца 60 гадоў выдатнаму нашаму паэту, драматургу і празаіку Васілю Вітку. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў рэспублікі накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

«Дарагі Цімох Васільевіч!

Сардэчна віншуем Вас, выдатнага паэта, драматурга, празаіка, заслужанага дзеяча культуры БССР, з днём шасцідзесяцігоддзя.

Вось ужо больш як сорак гадоў працуеце Вы на паэтычнай ніве. Працуеце стала, дбайна, самаахвярна, з вялікай любоўю да сваёй справы, да жывога народнага слова, з нястомным гаспадарскім клопатам пра сённяшні і заўтрашні дзень роднай літаратуры. Дбайна Ваша праца, шчодры Ваш талент, багаты і Ваш ураджай. На Вашым творчым рахунку — кнігі лірыкі, зборнікі вершаў для дзяцей, казкі, п'есы, апавяданні, замалёўкі, мастацкія пераклады.

Вас добра ведае наш дарослы чытач. Але асаблівай вядомасцю і пашанай карыстаецеся Вы сярод чытачоў юных. І гэта натуральна, бо Вы добра ведаеце свет дзіцячай душы, дзіцячую псіхалогію, з'яўляецеся тонкім, дасканалым мастаком ў жанры дзіцячай паэзіі.

Разнастайную творчую працу Вы паспяхова спалучаеце з актыўнай грамадскай дзейнасцю, шмат сіл і часу аддаяце выданню часопіса «Вясёлка», галоўным рэдактарам якога з'яўляецеся з дня яго ўтварэння. Нямала ўвагі аддаяце Вы таксама выхаванню творчай моладзі. Вядомы Вашы сталыя сувязі з чытачамі, дарослымі і юнымі, з якімі Вы часта сустракаецеся.

Карыстаючыся нагодай, сведчым Вам, дарагі Цімох Васільевіч, яшчэ раз сваю павагу і жадаем Вам ад усяго сэрца доўгіх год жыцця, поспехаў у творчасці і ўсяго найлепшага ў жыцці».

Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», далучаючыся да гэтага прывітання, у сваю чаргу віншуе Цімоха Васільевіча з юбілеем і зычыць яму моцнага здароўя і новага творчага плёну.



# ВАЛАДАР ЧАРОЎНАГА КЛЮЧЫКА

## СЛОВА ДА СЯБРА

Мікола ЛОБАН

ДАРАГІ дружа! Табе ўжо шэсцьдзесят? Нічога, не на многа менш і мне. У гэты дзень мне хочацца сказаць табе тое шчырае слова, якое пры іншых акалічнасцях з-за тае ж далікатнай шчырасці неяк не прынята гаварыць адзін аднаму. Не пужайся, гэта не будзе ялейна-юбілейны артыкул. Я і не ўмею і не люблю іх пісаць, як і чытаць. А вот шчырае слова — паважаю, як паважаеш і ты, гэта я ведаю.

Не збіраюся я, дарагі дружа, пісаць і літаратуразнаўчага па ўсіх правілах і законах артыкула пра тваю немнагатомную творчасць. Навукі ў такой пісаніне не многа, а сухаты — аж залішне. Гэта зробіцца без мяне, тым болей, што паэзія — штуковіна тонкая, вельмі ж трэба сцерагчыся, каб, бывае, не наступіць ёй на вуха сваім празаічным лапцем.

Калі праз многа год сустракаюцца два старыя знаёмыя, то ўся іх даўжэзная размова адразу пачынае круціцца вакол: «А помніш?» У нейкім падобным плане і я хачу павесці гаворку.

І ўсё-такі перш-наперш пра паэзію. Ты добрае слова сказаў пра яе: «...у чалавека заўсёды будзе патрэба ў чароўнай сіле паэзіі». Я хацеў цябе падправіць, уставіць слова «ў кожнага»! А потым падумаў: што я кажу? Хіба ж у кожнага? У тым-то і справа, што не ў кожнага. Сваімі адносінамі да паэзіі чалавек і адрозніваецца ад чалавекападобнай істоты. І яшчэ: «...сапраўдным паэтам становіцца толькі той, хто адкрывае жыватворныя скарбы народных дум і пачуццяў, у дасканаласці авалодвае незлічонымі багаццямі слова». Вельмі справядліва! Не буду разгортваць тваю гэту глыбокую думку, учаплюся толькі за апошняе, за «слова».

Загадка паэзіі, яе прырода ў тым таямнічым і магічным слове, якое шапнула дзяўчынка свайму гліндаму салаўю:

**Купіў я дачцы салаўя —**
**З гліны,**
**Засушанага,**
**І ажыла**
**Птушка мая,**
**Замове паслушная.**

**Шапнула дзіця**
**Слоўка адно —**
**Пырхнуў салоўка**
**З хаты ў акно**
**І заспяваў на волі**
**У нас**
**У садку,**
**У бэзавым голлі.**

Што ж гэта было за слова? У чым яго магічная сіла? Як яе спасцігнуць, разгадаць?

А, можа, зусім і не трэба разгадваць яе, гэту магічную сілу слова, каб не сцуралася яна добрай дзяўчынкі? А, можа, у гэтай замове і ёсць тое «сінявокае шчасце», што на крылах ранішняй птушкі адлятае, як спуджаная мара? І дзе тая сцяжынка, якой прыходзіць яно, дзе той ключык, якім адмыкаецца яго клетка?

Кожны чалавек — калі ён чалавек — павінен знайсці сваю паэзію, усё жыццё гадаваць яе, ператварыць яе ў паветра і хлеб, у жаданне гаварыць і марыць. А паэт, у адрозненне ад непаэта, акрамя ўсяго, павінен быць і чараўніком слова.

...Сорак тры гады назад, як не дзіўна, нам было ўсяго па шаснаццаць. Ты прыходзіў узяць кніг. Чым пабольш. Беларускіх. Ты быў у палатнянай вышытай валошкай сарочцы, з кійком...

За другім разам я ўжо праводзіў цябе па куп'істым поплаве, дзе на ніточках віселі жаўранкі, а ў плёсе зацвітаў лотак. Мы падышлі да самага рова, што аддзяляў чапліцкі поплаў ад еўліцкага палетку, і паселі на вільготным насыпе. Усюды яшчэ праціскалася вада, і коні, выцягваючы загрузлыя па калені ногі, хлопалі, быццам адкаркоўвалі бутэлькі. Ты мне чытаў вершы, ясенінскія, і сярод іх — «Чорнага чалавека». Я толькі-толькі быў пазнаёміўся з гэтым вялікім паэтам, хаваў стары нумар «Огонька» з яго, на ўсю вокладку, партрэтам, але вершаў, хіба толькі акрамя «Ліста да маці», не ведаў. А ты мне чытаў іх адзін за другім.

Той раз ты мне яшчэ не сказаў, што пішаш, не сказаў табе і я. Гэта неяк само сабою стала разумецца. А гаварыць? Ці было ўжо ў нас тады права на гэту самую «штуковіну», што называецца паэзіяй, ці дастаткова мы былі закаханы ў яе, каб прызнавацца адзін аднаму? Гэта стрымлівала.

Потым ты ўстаў, пацісну мне, як дарослы даросламу, руку і, разагнаўшыся, пераскочыў равок. Цяпер ты пойдзеш паўз засеяныя, але яшчэ чорныя палі туды, дзе збеглася сярод хутароў купка хат. Там, сярод іх, і твая маленькая, невялікага дастатку хата. У ёй твае працавітыя, нялёгкага лёсу бацька і маці, якім ты некалі прысвеціш не адзін пранікнёны, поўны сыноўняй любові радок. Там і твая зусім яшчэ маленькая сястрычка. І, вядома ж, яны ўжо недзе чакаюць цябе на вячэру з гарачай бульбай і конаўкай сырадою.

Адыходзячы з гэтага пры канаве месца, я заклінаў цябе застацца маім сябрам і, яшчэ не згубіўшы цябе з вачэй, пачынаў чакаць новай сустрэчы.

І яна адбылася, гэта новая сустрэча — праз год, у Слуцку. Ты ўжо быў для мяне славутым паэтам аднаго надрукаванага верша ў «Вясне». Я з зайздрасцю не адзін раз прачытаў гэты верш і к сустрэчы ведаў яго амаль напамяць. Вядома ж, ты чакаў ад мяне нейкага чытацкага слова. Не нейкага нават, а добрага, цёплага, сяброўскага. О, як хочацца гэтай падтрымкі, гэтага, сціплага, шчырага і сарамлівага слова «здольнасць». Мяне спыняла тады дыстанцыя, якая раптам утварылася паміж намі, паміж прызнаным і, бясспрэчна, таленавітым і непрызнаным, талент якога дзесьці свяціўся ў туманнай праекцыі. Спыняла мяне і эгаістычнае — а раптам я выкажу што-небудзь бяздарнае і ты ўбачыш гэту маю бяздарнасць? Але ты, мне здаецца, жыў тады і іншым пачуццём, пачуццём абавязку падаць мне руку. Ты папрасіў даць пачытаць што-небудзь з таго, што я пішу: «Вясне» патрэбна проза. Мой «шэдэўр», невялічкі абразок, быў пры мне, і я з хваляваннем аддаў яго ў твае рукі. Тут жа, на вуліцы, прыпёршыся к плоту, ты прачытаў яго. Чакаю. А на твары — ні хмурыначкі, ні вясёлага зайчыка.

— Гэта што ў цябе такое? Урывак з вялікага чаго? — сур'ёзна пытаешся, быццам трымаеш у руках кавалак нечага вельмі значнага.

А мне і сказаць няма чаго. Напісалася нешта і толькі, замалёвачка з натуры. Яна не давала ніякай тэмы для размовы. Што можна было сказаць пра апісанне таго, як заходзіць сонца і нараджаюцца вячэрнія гукі? Але, каб заспакоіць мяне, ты запрашаеш на заняткі літаратурнага гуртка, які быў арганізаваны не без твайго ўдзелу пры гарадскім клубе.

Жыццё нас разлучыла на многія гады. Нейкімі скупымі абрыўкамі даходзілі да мяне на Любаншчыну звесткі пра цябе з Бабруйска, з Мінска, з Беластока. Рэдка гэтай весткай быў адзін-другі надрукаваны верш.

Нічога ў гэтых нашых першых кроках асаблівага не было, звычайнае сяброўства? А для мяне — не. Для мяне гэта сяброўства было адной з тых галоўных прычын, што вызначылі напрамак маіх думак і імкненняў.

На небе згушчаліся хмары, у паветры запахла парахавым дымам, і «наш эшалон ужо ішоў на фронт». Гэта яшчэ пакуль што на выратаванне сваіх братоў і сёстраў. А не прайшло і двух гадоў, як у самую «пару салаўінай песні» настаў той пакутны дзень навалы, што прынёс людзям незлічонае гора, «горкі вырай» і «тугу па сынах сваіх адзінокай маці».

У цяжкія для Радзімы дні 1942 года ў «Комсомольской правде» прамільгнула тваё імя. Я аж закрычаў ад радасці: «Ты жыў, дарагі мой! Ты выбраўся з пекла!» Адразу ж пішу ў «Комсомолку» — напраміды бог прашу знайсці мне Цімоха Крысько — і праз некалькі тыдняў у мяне на стале ліст з тваім знаёмым почыркам і звязак родных беларускіх газет. Радасці не было канца. Зноў ты падаваў мне руку, пытаўся, ці пішу, бударажыў маю душу. Як рукою зняў маю тугу адарванага чалавека. Я загараюся непераадольным імкненнем туды, бліжэй да цябе. Хоць і не так хутка, але збываецца мая мара. Цераз два гады я сустракаю цябе ў Маскве ў рэдакцыі часопіса «Беларусь». Скупыя прадуктовыя карткі не дазволілі нам пасядзець за чаркай, абышліся чаем з «тытана» ў гасцініцы «Якар». Але і без чаркі было ўжо весялей на душы: ішоў 1944 год, ужо вялікая тэрыторыя была вызвалена ад фашысцкай нечысці, ужо быў вызвалены і кавалачак, хоць і скрываўленай, хоць і знявечанай Беларусі. Помню, ты паказаў мне рукапіс першай сваёй кніжачкі вершаў «Гартаванне», якая вось-вось павінна была выйсці з друку, прачытаў з яе некалькі незнаёмых мне вершаў, напісаных у дні вайны. Потым мы захапляліся старонкамі аповесці «Млечны шлях» Кузьмы Чорнага, якая была падрыхтавана да друку.

— Дарэчы, Мікалай Карлавіч тут, у «Якары» жыве, пойдзем зараз да яго, — сказаў ты і павёў мяне на другі паверх.

Да гэтага я ўжо сустракаўся з Мікалаем Карлавічам у Мінску, атрымліваў ад яго лісты і таму сустрэў ён мяне як знаёмага чалавека і пісьменніка, хоць я ім яшчэ і не быў.

Мікалай Карлавіч адразу пачаў успамінаць смешныя выпадкі з жыцця на Случчыне. Вось ужо сапраўды.

**Будзем мы ўсюды неразлучны**
**З першымі ўспамінамі жыцця,**
**З ціхаю тугой па роднай Случчыне,**
**З шолахам альховага лісця...**

З усёй размовы, якая адбылася тады ў пакоі К. Чорнага, відаць было, што ён чуў пра мяне і ад цябе.

# БелСЭ, том III

ЯК ВЯДОМА, падпісчыкі атрымалі ўжо другі том гэтага цікавага, першага ў Беларусі навуковага энцыклапедычнага выдання. На чарзе — трэцяя кніга. У якім яна стане? Што цікавага будзе на яе старонках? Калі трапіць да чытача? На пытанні карэспандэнта штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» адказвае кандыдат гістарычных навук, адказны сакратар Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі Аляксандр Петрашкевіч:

— Са здавальненнем паведамляю, што ў гэтыя знамянальныя дні ўсенароднай працоўнай вахты трэці том энцыклапедыі падпісаны ў друк. Сімвалічна, што том адкрываецца словам «веды». Дэвіз нашага жыцця: веды — народу, і калектыў Галоўнай рэдакцыі БелСЭ імкнецца як найлепш задаволіць гэтае высакароднае імкненне — узброіць нашых чытачоў навукова абгрунтаванымі, глыбока даследаванымі і праверанымі сучаснай практыкай па ўсіх галінах ведаў.

У трэцім томе будзе змешчана каля трох тысяч тэрмінаў, шмат ілюстрацый — фотаздымкаў, карт, схем, каляровых ўклеек. Як і першыя два тамы, так і трэці мае свае, так званыя «ўдарныя тэмы», своеасаблівыя манаграфічныя даследаванні. Можна будзе, напрыклад, прачытаць артыкулы: Вялікая Айчынная вайна Савецкага Саюза 1941—1945, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя 1917, Вялікае княства Літоўскае, Грамадзянская вайна і замежная ваенная інтэрвенцыя ў СССР 1918—1920, Вызваленчая барацьба ўкраінскага і беларускага народаў (1648—54) і шмат іншых.

Нямала патрэбных і цікавых звестак знойдуць чытачы пра Віцебскую і Гомельскую вобласці, пра іх абласныя цэнтры. У гэтых раздзелах можна будзе пазнаёміцца з гістарычным мінулым і сучасным станам гаспадаркі, культуры і аховы здароўя Віцебшчыны і Гомельшчыны. Прыгадаем некалькі артыкулаў, у якіх пададзены звесткі пра Віцебшчыну ад даўніх часоў і да нашых дзён: Віцебскае княства, Віцебскае паўстанне 1623, Віцебская арганізацыя РСДРП(б), Віцебская арганізацыя КПБ.

Цікавыя артыкулы пра гераічнае змаганне беларускага народа з нямецка - фашысцкімі акупантамі: Віцебскае партыйнае падполле ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Віцебская аперацыя 1944, Віцебскі падпольны абком КП(б)Б у гады вайны, Віцебскія вароты — 40-кіламетровы пралом у лініі нямецкага фронту паміж Веліжам і Усвятамі, які стварыўся ў выніку наступлення савецкіх войск зімою 1941—42.

Нямала артыкулаў прысвечана культуры Надзвінскага краю. Тут і архітэктурныя помнікі мінулага, і звесткі пра школу-майстэрню мастака Ю. Пэна, вышэйшыя навучальныя ўстановы, газеты, якія выдаваліся да рэвалюцыі і сёння выходзяць у свет, абласны краязнаўчы музей і інш. Мала хто ведае, што ў Віцебску ў 1845—46 гг. працавала трупа, створаная французскім балетмайстрам М. Піёнам (адсюль назва — Віцебскі балет Піёна). У трупе былі вольныя і прыгонныя беларускія акцёры, танцоўшчыкі і музыканты. Віцебск — своеасаблівая калыска, дзе выхоўваліся прафесійныя мастакі. З 1918 па 1941 год тут працаваў мастацкі тэхнікум, многія выпускнікі якога пазней сталі вядомымі майстрамі мастацтва Беларусі.

У трэцім томе змешчаны артыкулы пра пісьменнікаў Васіля Вітку, Анатоля Вольнага, Віталя і Артура Вольскіх, Анатоля Вялюгіна, Анатоля Вярцінскага, Платона Галавача, Цішку Гартнага, Сцяпана Гаўрусёва, Аркадзя Гейнэ, Ніла Гілевіча, Пятра Глебку, Сяргея Грахоўскага, Анатоля Грачанікава, пра беларускага пісьменніка-дэмакрата Арцёма Ігнатавіча Вярыгу-Дарэўскага і іншых. Патрэбныя, на на-

I яшчэ запомнілася мне, як чытаў я табе апавяданне, ужо напісанае тут, у Мінску. Называлася яно «На жалезцы». Гэта быў першы твор, які некалькі дзён падабаўся мне самому. Перапісаўшы апавяданне начыста, я бег да цябе на Крапоткінскую хутчэй прачытаць. Вольга Рыгораўна запаліла нам лямпу, і мы ўтраіх размясціліся вакол стала. Я пачаў чытаць. На самым пачатку вельмі прыгожа, павоўчы гарцаючы, бег вялікі рыжы сабака. Здорава быў зроблены ў мяне гэты абзац! Прачытаў — і не ўцярпеў, каб не зірнуць на цябе. Не можа ж быць, каб гэтым я цябе не падкупіў?

Але эмоцый захаплення не паследавала. Не было іх і тады, калі я палажыў апошнюю старонку.

— І гэта ўсё!? — зусім празаічна ледзь не закрычаў ты, усхапіўшыся з крэсла. — І ты гэта лічыш апавяданнем?

— Лічу, — запярэчыў я.

— Ну што ж, можаш сабе лічыць, толькі друкаваць яго ніхто не будзе.

Вольга Рыгораўна пачала абараняць мяне, ёй шкада было, што мяне спасцігла такая няўдача.

Я расчырванелы і ўзмакрэлы схапіў са стала свае лісты, запхнуў іх у кішэню і выбег. Я не заўважыў, як па руінах горада дабег да свайго дома на Маскоўскай. Самая вялікая крыўда была ў тым, што ты быў усё-такі праў. Да гэтага я прыйшоў па дарозе. Але самае большае здзіўленне маё было з таго, што ты на адным з пленумаў праўлення СП БССР назваў яго ў дакладзе як маё дасягненне і што гэта апавяданне сведчыць пра тое, што я буду расці як празаік эпічнага жанру. Адным словам, я стаў нейкім вусным празаікам. А што да эпічнасці, то ты, відаць, аказаўся ў некаторай ступені праў.

Праходзяць месяцы, ты адно за другім падпісваеш у друк некалькі маіх апавяданняў, нарысаў, артыкулаў. Мне — ні слова, другім — пахвальваеш. А раз так, значыць гэта не тое. Я ўжо цябе вывучыў! Злуюся. Як жа ўзяць мне тваю гэту крэпасць?

Наступным чытаннем быў раман «На парозе будучыні». Аддаў — і дрыжу. Жартачкі — раман, тры гады работы толькі за сталом! Але і не гэта галоўнае. Галоўнае — расчараванне і адыход ад літаратуры: столькі патрачана сілы і часу, а сапраўднага няма. Ніякай тэндэнцыйнасці не магло быць, з твайго боку, твой асялок быў справядлівы. Тваё вока ўбачыць, злавіў я сваю птушку ці ўсё яшчэ безнадзейна ганяюся за ёю, стаў я тым чараўніком слова, без чаго не бывае паэта, ці яшчэ не стаў, раскрылася перада мною тайна таго слова, якое дзяўчынка шапнула свайму гліняному салаўю, ці не?

І ты пахваліў. Нарэшце.

Не думаю, дарагі, што прынцыповасць — ноша лёгкая. Не, не кожнаму яна па плячы!

Я ўспамінаю гэту цудоўную рысу твайго характару не таму, што я ў некаторай ступені быў «ахвярай» яе, а таму, што гэта вызначыла цябе і як чалавека і як пісьменніка, ва ўсім тваім і дзіцячым і недзіцячым амплуа, як паэта і як празаіка, драматурга і эсэіста. Гэта выражэнне цвярозага рэалістычнага позірку на жыццё, праўдзівасці і шчырай любові да маці-радзімы.

Жадаю табе поспеху, дарагі дружа!




## Генадзь ТУМАС



●

Страляе родная зямля.
Яшчэ цяпер
там-сям
страляе.
Дзяды ўспамінаюць:
Мін было,
як бульбы.
Страляе
родная зямля.
Тут сеяў смерць калісьці
вораг.
І выбухі стаяць,
як крыкі
Загубленых людзей.
Страляе родная зямля.
Пасля ўзарваных бомбаў
Зноў над краем звініць
цішыня...

●

Партызанскія зямлянкі —
гарады ў зямлі,
партызанскія зямлянкі —
беларускія гарады.
Не шукайце тут палацаў,
тут палац адзін—лясы,—
скарб адвечны, найсвяты.
На адной раслі зямлі,
разам у вайну былі
лес і людзі.
Не шукайце тут палацаў,
не шукайце даўніны,
партызанскія зямлянкі,—
гэта памятка вайны.
Партызанскія зямлянкі—
безназоўныя гарады,
так і не захопленыя ворагам...

## КНІГА

Засеяў першагаспадар Скарына
У Златай Празе белыя палі.
За трыдзевяць ад роднае
зямлі
Закрасавала важка слова сына.

Ад працы сейбіта-беларусіна
Святлеў народ, хмурнелі
каралі.
А потым—ані каліва ў раллі,
Запанавала змрочная часіна.

Калючы людзі вырвалі асот.
Лятуць збіраць на ніву пчолы
мёд.
Нектар вякоў знаходзячы
у красках.

Дало усходы зерне друкара,
І гэта ўжо цяпер зусім
не казка—
Адна з легенд сівых пра
змагара.

●

Даўно лістота на зямлі
счарнела,
ды зімы няма, няма зімы.
Аднойчы сонца так прыгрэла,
што дзівіцца сталі мы.

І асенні дзень, вясёлы, чысты,
за вясновы палічылі
неўспадзеў.
Не паверыў толькі дуб
вячысты—
ні адзін лісток да долу
не зляцеў.

# ІМЯ А. ФАДЗЕЕВА

**У 1969 годзе ў гонар выдатнай падзеі ў гісторыі савецкага народа — перамогі над фашысцкай Германіяй, ЦК ВЛКСМ, Саюз пісьменнікаў СССР, выдавецтва «Молодая гвардия» аб'явілі Усесаюзны літаратурны конкурс імя Фадзеева.**

**Днямі сакратарыят ЦК ВЛКСМ і сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў СССР падвялі вынікі літаратурнага конкурсу імя Фадзеева і пастанавілі прысудзіць прэміі пераможцам. Сярод узнагароджаных беларускі пісьменнік І. Шамякін. Яму прысуджана другая прэмія за аповесць «Браняносец «Таварыш Ленін».**

# З УДЗЕЛАМ АЎТАРА

На філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна адбыўся дыспут па рамане Івана Чыгрынава «Плач перапёлкі». Уступнае слова пра раман зрабіў выкладчык універсітэта Л. Царанкоў. Затым выступілі студэнты.

Гаворка аб рамане закончылася выступленнем І. Чыгрынава, які расказаў, як ствараўся твор, якія падзеі ляглі ў яго аснову, падзяліўся сваімі творчымі планамі і задумамі.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



**У Рускім дзяржаўным драматычным тэатры БССР імя М. Горкага адбылася прэм'ера спектакля «Разгром» па матывах рамана А. Фадзеева (інсцэніроўка М. Захарава і І. Прута). Пастаноўка Ф. Шэйна, мастак Л. Альшыц, кампазітар А. Нікалаеў, рэжысёры Ю. Мiраненка і А. Смелякоў.**

**На здымку — народны артыст БССР Р. Янкоўскі ў ролі Левінсона.**



**У Беларускім тэатры юнага гледача адбылася прэм'ера спектакля «Несцерка» па п'есе В. Вольскага. Кіраўнік пастаноўкі — народны артыст СССР П. Малчанаў, рэжысёр Г. Кандрашова, мастак Ю. Тур, кампазітар Г. Сурус. У галоўных ролях заняты заслужаныя артысты БССР Л. Цімафеева і У. Говар-Бандарэнка, артысты А. Ротэр, В. Турмовіч, Л. Міхайлаў, В. Мельнікаў і іншыя.**

**На здымку — В. Турмовіч у ролі Несцеркі.**

шу думку, і артыкулы пра пісьменнікаў братніх народаў, творы якіх перакладаліся на беларускую мову ці яны самі перакладалі кнігі беларускіх літаратараў на рускую і іншыя мовы. Гэта артыкулы пра ўкраінскіх пісьменнікаў Астапа Вішню і Алеся Ганчара, пра паэтаў Сяргея Гарадзецкага і Людаса Гіру— вядомых перакладчыкаў твораў Янкі Купалы.

Цікава будзе прачытаць у трэцім томе БелСЭ тое, што тычыцца ўкраінскага даследчыка беларускай казкі Рамана Волкава, драматурга, акцёра і рэжысёра Уладзіслава Галубка і яго сына Эдуарда Галубка — фалькларыста і літаратуразнаўцу, беларускага казачніка Піліпа Гаспадарова.

Уявіць цікавасць артыкул «Газета», у якім раскрываецца ўся гісторыя перыядычнага друку на Беларусі з даўніх часоў і да нашых дзён. У трэцім томе чытач таксама знойдзе артыкулы пра газеты і часопісы, што выдаюцца сёння: «Вясёлка», «Вожык», «Вячэрні Мінск», «Віцебскі рабочы», «Гомельская праўда», «Голас Радзімы». Значнае месца ў трэцім томе аддадзена майстрам беларускага мастацтва: архітэктару Аляксандру Воінаву, дзеячам сцэны Вользе Галіне, Мікалаю Ворвулеву, Глебу Глебаву, Генадзю Гарбуку, Лідзіі Галушкінай, мастакам Валянціну Волкаву, Пятру Гаўрыленку, Віктару Грамыку, кінарэжысёру Льву Голубу і кінааператару Іосіфу Вейняровічу, кампазітару Яўгену Глебаву, скульптару Аляксею Глебаву і інш.

Тыя, хто цікавіцца беларускім народным мастацтвам, працягвае Аляксандр Лявонцьевіч, таксама знойдуць у томе нямала карысных для сябе артыкулаў. Падаецца, напрыклад, апісанне народных танцаў, вясельных, веснавых і восеньскіх песень. Асобны артыкул «Вяселле» знаёміць з гэтым вясёлым, жыццярадасным і маляўнічым абрадам, які захаваўся да нашых дзён. Аўтар артыкула пра восеньскія песні падкрэслівае, што яны, гэтыя песні, бытуюць толькі на Беларусі.

Мне здаецца цікавым і грунтоўным артыкул пра адзін з відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на Беларусі — «Вышыўка». Гэты від мастацтва ў нас вядомы з даўніх часоў. Майстрыхі ўпрыгожвалі вышыўкай посцілкі, настольнікі, ручнікі, паясы, фартухі, кажухі, гарсэты... На Беларусі існуе каля ста відаў і спосабаў вышыўкі. У розных раёнах вышыўка вызначаецца сваім непаўторным мясцовым каларытам, арнаментам і тэхнікай выканання Вырабы беларускіх вышывальшчыц вядомы далёка за межамі рэспублікі. Артыкул гэты ілюструецца прыгожай каляровай уклейкай, на якой змешчан рад узораў беларускай вышыўкі.

Не менш цікавая і другая каляровая ўклейка, якая адлюстроўвае беларускую геральдыку — гербавыя знакі некаторых старажытных беларускіх гарадоў. Вядома, што больш за 50 такіх гарадоў мелі ўласныя гербавыя знакі.

У трэцім томе БелСЭ будуць артыкулы пра Вілейска-Мінскую водную сістэму, якая зараз будуецца, пра вёску Вялікія Сялюцічы, дзе фашысцкія нелюдзі спалілі 387 чалавек, і пра іншыя беларускія вёскі з такім жа трагічным лёсам. Асобны артыкул прысвечаны Вязынцы — вёсцы, у якой нарадзіўся народны паэт Янка Купала.

Цікавы трэці том і біяграфічнымі матэрыяламі пра маршала авіяцыі К. Вяршыніна, кавалера трох ордэнаў Славы В. Вятошкіна, які і сёння працуе на Гомельскай фабрыцы «Палесдрук», пра героя грамадзянскай вайны Гая, пра сям'ю падпольшчыкаў Герасіменкаў.

Словам, спадзяёмся, што наша новая работа — трэці том БелСЭ будзе карысным і патрэбным даведнікам для кожнага, хто цікавіцца Беларуссю, яе гістарычным мінулым і сённяшнім днём.

Мяркуем выдаць сігнальныя экземпляры трэцяга тома ў канцы чэрвеня, а тыраж — у другой палавіне бягучага года.

Зараз калектыў Галоўнай рэдакцыі энцыклапедыі рыхтуе да друку чацвёрты, пяты і шосты тамы, і ставіць перад сабой мэту — выдаць чацвёрты том у снежні гэтага года.

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# У МУЗЫЦЫ — БЕГ ЧАСУ

ІЗНАЎЦАЎ - МУЗЫКАНТАЎ, і шырокае кола аматараў, безумоўна, парадуе выхад у свет кнігі «Гісторыя беларускай савецкай музыкі», у якой упершыню сістэматызаваны фактычны матэрыял і разглядаюцца асноўныя праблемы і шляхі развіцця сучаснага нацыянальнага музычнага мастацтва.

Калектыў аўтараў — выкладчыкаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі — правёў вялікую работу аналітычнага, бібліяграфічнага і тэксталагічнага характару (трэба адзначыць, што асноўная маса твораў беларускіх кампазітараў і дагэтуль яшчэ знаходзіцца ў рукапісным выглядзе).

Пісаць гісторыю музыкі, як і іншага віду мастацтва, па свежых слядах падзей цяжка. Некаторыя ацэнкі, якія даюцца ў гэтай рабоце, запатрабуюць у будучым пэўных карэктываў, тым больш, што многія працэсы, пра якія гавораць аўтары, яшчэ не завершаны. Але пры ўсім гэтым асноўная лінія развіцця беларускага музычнага мастацтва выразна прасочана ў кнізе, яго тэндэнцыі і напрамкі, характарыстыка важнейшых стылістычных з'яў музыкі, а таксама ацэнкі этапных для нацыянальнай культуры твораў наўрад ці могуць выклікаць пярэчанне.

Дакладнасці пазіцый аўтараў у асэнсаванні важнейшых асаблівасцей развіцця беларускай савецкай музыкі ў многім садзейнічала правільна выбраная метадалогія, якая абапіраецца ў першую чаргу на марксісцка-ленінскі прынцып сувязі мастацтва з рэчаіснасцю.

Трэба сказаць, што гісторыя беларускай музыкі — адлюстраванне асноўных этапаў гісторыі нашага народа. Палітычныя, эканамічныя, ідэалагічныя, культурныя змены ў яго жыцці пастаянна знаходзяць адлюстраванне ў музычным мастацтве, асабліва ў такіх яго жанрах, як опера, сімфонія, кантата, камерна-вакальныя творы. Нашы кампазітары заўсёды чуйна прыслухоўваюцца да неспакойнага пульсу эпохі.

Новая кніга, пры параўнальна невялікім аб'ёме, багатая думкамі і фактамі. У ёй — расказ пра музычную культуру, «бягучыя справы» ў галіне адукацыі, тэатральна-канцэртную дзейнасць, арганізацыю творчых калектываў. Значнае месца адведзена развіццю народнага мастацтва. Кампактна пададзены асноўныя звесткі з галіны музыказнаўства. Але, вядома, цэнтральнае месца займаюць раздзелы, прысвечаныя разгляду важнейшых твораў кампазітараў. Разглядаюцца этапы станаўлення розных жанраў. Калі опера, канцэрт, апрацоўка народнай песні, часткова сімфанічная музыка і кантата ўжо знайшлі пэўнае асвятленне ў музыказнаўчых работах, дык такія жанры, як камерна-інструментальная музыка, балет, сольная песня і раманс, бадай, упершыню даследуюцца на старонках кнігі.

Беларуская савецкая музыка прайшла розныя этапы фарміравання тых або іншых стылістычных асаблівасцей. У сувязі з гэтым прынцыпова важна выявіць тыя кампаненты, якія далі ў выніку арыгінальны, нацыянальна-самабытны музычны стыль.

На прыкладзе пачатковых этапаў развіцця многіх жанраў, у першую чаргу opернага, сімфанічнага і камерна-вакальнага, аўтары пераканаўча паказваюць рашаючы ўплыў рускай музычнай класікі на фарміраванне нацыянальнай беларускай кампазітарскай школы. І калі асваенне рускай класікі з'явілася стымулам для ўдасканальвання кампазітарскага майстэрства, то народная беларуская творчасць з'явілася той асновай, на якой вырас самабытны стыль прафесійнай беларускай музыкі.

У кнізе раскрыты працэс асваення кампазітарамі народных традыцый, пошукаў неабходнай раўнавагі паміж традыцыйным і наватарскім. Не заўсёды гэтыя пошукі былі дастаткова смелымі, знаходкі — удалымі. Але цалкам беларускую прафесійную музыку ніяк нельга папракнуць у непавазе да стылістычных асноў народнага мастацтва, у мадэрнісцкім эксперыментатарстве над народнай песняй.

Гісторыя беларускага народа — гэта ў многім гісторыя яго ратных подзвігаў. Вось чаму такое прыкметнае месца ў беларускай музыцы таксама як і ў літаратуры і іншых відах мастацтва, займае ваенна-патрыятычная тэматыка. Творам на гэту тэму прысвечаны найбольш сур'ёзныя і, як нам здаецца, найбольш удалыя старонкі кнігі.

Шмат увагі аддаюць аўтары пытанням агульнай і музычнай драматургіі вялікіх вакальна-сцэнічных і сімфанічных жанраў. Сімфанічнае майстэрства нашых кампазітараў сапраўды нярэдка было прадметам творчых дыскусій, таксама, як і пытанне аб гарманічным спалучэнні лібрэта і музыкі. Дзеля справядлівасці зазначым, што падобныя спрэчкі аб нормах і формах музычна-драматургічнага канфлікту характэрны ўвогуле на сучасным этапе развіцця савецкай оперы і адлюстроўваюць фарміраванне нейкіх прынцыпова новых якасцей буйнай музычнай кампазіцыі (напрыклад, так званыя сінтэтычныя формы).

Як пішуць аўтары ва ўводным раздзеле, кнігу трэба разглядаць «не толькі як вучэбны дапаможнік... але і як даследаванне па гісторыі беларускай савецкай музыкі». Такое спалучэнне метадычнага дапаможніка і чыста даследчай працы зусім апраўдана, бо дастаткова доўга мы не мелі ні таго, ні другога. Праўда, такая форма выклікала і пэўныя выдаткі. Так, залішне аднастайным аказаўся аналіз раду твораў, занадта скупымі рысамі акрэслена ўзаемасувязь музыкі з іншымі відамі беларускага мастацтва.

Аднак і пры гэтых выдатках кніга пакідае ўражанне сур'ёзнай, прадуманай працы.

Імянныя, бібліяграфічныя і нотаграфічныя ўказальнікі аблягчаюць карыстанне ёю. Агульная кампаноўка матэрыялу таксама дастаткова прадумана і сведчыць аб старраннай рабоце рэдкалегіі.

Даследаванне шляхоў і асаблівасцей развіцця беларускай савецкай музыкі даведзена да пачатку 60-х гадоў — перыяду вельмі важнага, у нечым нават пераломнага для беларускага музычнага мастацтва. Пазней, у 60-я гады, атрымалі развіццё многія з'явы, якія ледзь намячаліся ў папярэдні перыяд. Нашы кампазітары сталі на шлях актыўных пошукаў новых сродкаў музычнай выразнасці, у тым ліку тых, што маюць падкрэслена эксперыментальны характар. Разам з тым у гэтыя гады гэтак жа актыўна працягвала развівацца так званае традыцыйнае музычнае мастацтва. Спалучэнне гэтых дзвюх тэндэнцый стварыла ў 60-я гады даволі складанае, але разам з тым маляўнічае перапляценне розных стыляў, жанраў, выяўленчых сродкаў. Асвятленне гэтага перыяду гісторыі беларускай савецкай музыкі — бліжэйшая задача беларускіх музыказнаўцаў, падрыхтаваных ужо да падобных і больш шырокіх даследаванняў.

**В. ЯЛАТАЎ.**

Г. Глушчанка, Л. Мухарынская, С. Нісневіч, К. Сцепанцэвіч, Т. Шчарбакова. «Гісторыя беларускай савецкай музыкі». Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1971.

# ГРАНІ ФАНТАСТЫКІ

ВЫЙШАЎ у свет новы зборнік апавяданняў беларускага пісьменніка-фантаста Уладзіміра Шыціка «Парсекі за кармой». Чытанне яго выклікала жаданне прачытаць нанава ўсё напісанае. Шыцікам раней, параўнаць, прасачыць хоць бы коратка творчы шлях пісьменніка.

У 1964 годзе Ул. Шыцік дэбютаваў аповесцю «Апошняя арбіта». Сюжэт яе: праверка гіпотэзы, якая сцвярджае, што ў Сонечнай сістэме павінны быць сляды касмічных прышэльцаў. Рыхтуецца карабель, экіпаж якога складае адзін прафесіянальны касманаўт, адзін кандыдат навук і школьнік (дэталь жульвернаўская). Яны наведваюць Марс і Плутон, сляды прышэльцаў сапраўды адшукваюць і пасля цудоўных прыгод вяртаюцца дадому, на Зямлю.

Аб мастацкіх вартасцях гэтага твора можна зазначыць толькі адно: аповесць вучнёўская і хібы ў яе адпаведныя.

У зборніку апавяданняў «Зорны камень», які выйшаў у 1967 годзе, Шыцік распрацоўвае тэму кантакту з іншымі цывілізацыямі. Сюжэты гэтых апавяданняў разгортваюцца часам занадта лёгка і хутка, але этычную каштоўнасць ім надае разуменне таго, што ад чалавека запатрабуецца ўся яго мужнасць, здольнасць адчуваць сябе прадстаўніком Чалавецтва і планеты Зямля, а не проста падарожнікам. Не заваёўнікамі прыйдуць людзі да іншых планет, але сябрамі. І правільна робяць героі апавядання «Цені плывуць», калі выявіўшы на планеце здольную да развіцця форму жыцця, з якой пакуль немагчыма ўстанавіць кантакт, — яны пакідаюць яе, каб вярнуцца пазней, калі розум дасягне высокага ўзроўню развіцця.

Цікавы і плённы вывад, які можна зрабіць з многіх апавяданняў Шыціка: землянам будзе мець сэнс пакідаць на даследуемых планетах нейкія прыкметныя сляды свайго знаходжання, скажам, спецыяльныя радыёмаякі, якія пачнуць працаваць, калі хто-небудзь (паводле ідэі, абавязкова разумны) паспрабуе іх ускрыць. Такім чынам можа адбыцца кантакт, спачатку, вядома, ускосны...

Апавяданні апошняга зборніка адрозніваюцца ад усіх папярэдніх сваёй абвостранай увагай пісьменніка да псіхалагічнага стану чалавека, які трапіў у складаную сітуацыю. Да таго ж аўтар устрымліваецца ад маральных ацэнак, справядліва мяркуючы, што яны немінуча будуць мець аднабаковы характар. І чытач гаворыць сабе: «А сапраўды... У чым, уласна кажучы, памылка капітана?» У Космасе ж усё нельга прадугледзець і падрыхтаваным трэба быць да ўсяго.

...Касманаўты сустрэлі планету, на якой час ідзе значна хутчэй за зямны, і разведчык, пасланы на паверхню планеты, за кароткі час пасталеў на дзесяцігоддзі. Пра тое, што з ім адбываецца, ён здагадаўся даволі хутка, але вырашыў выканаць заданне, тым больш, што яно было варта гэтага: ён выявіў рэшткі зніклай цывілізацыі... А калі разведчык вярнуўся, капітан прад'явіў абвінавачанне ў тым, што ён загубіў таварыша. Па сутнасці Шыцік стварае мадэль адказнасці начальніка за свае загады... У пахавальнай песні спартанцаў былі словы: «Дабро — не жыццё і не смерць; яны памерлі, дабром лічачы доблесна жыццё правесці, доблесна сустрэць канец». Доблесна жыццё правесці — вось мудрасць жывой і мыслячай істоты.

Сур'ёзная маральна-этычная праблема ставіцца Шыцікам у другім апавяданні: «Чаргон альбо не?» Ісці на дапамогу, якая напэўна прыйдзе занадта позна, ці не ісці, але як тады быць з уласным сумленнем... Аказаць дапамогу — абавязак прыняўшых сігнал бедства, але да паслаўшых сігнал пяць гадоў палёту ды і невядома дакладна, адкуль прыйшоў гэты сігнал. Можна меркаваць толькі, што ад бліжэйшай да зорнага карабля зоркі.

Незапланаванае ўхіленне ад курсу на дзесяць год падоўжыць тэрмін палёту, які складзе ўжо трыццаць два гады... Вельмі лёгка разважаць аб праблемах будучых касмічных палётаў, калі за акном свеціць сонца і побач усё чалавецтва І зусім іншыя думкі прыйдуць у час гэтых палётаў, якія з'явяцца самым цяжкім заняткам з усіх прац чалавечых. Але чалавек усё ж ляціць да зорак!

Сярод іншых сумненняў капітана — накіроўвацца ці не — ёсць адно даволі распаўсюджанае ў сучаснай навуковай фантастыцы: сумненне ў сэнсе дальніх касмічных палётаў. Пры палёце ж з хуткасцю блізкай да светавой на зямлі пройдуць дзесяткі і сотні гадоў. Ці патрэбны будуць чалавецтву тыя звесткі, якія касманаўты прывязуць ад зорак, ад сустрэтых іншых разумных істот (калі іх сустрэнуць!). Пры сучасных тэмпах навуковага прагрэсу людзі да ўсяго дадумаюцца і не пакідаючы роднай планеты. І гэта вялікая памылка. Па-першае, ёсць на свеце рэчы, да якіх чалавецтва ніколі не дадумаецца, таму што гэтыя рэчы ляжаць у баку ад ходу развіцця нашага розуму, яны проста не ўласцівы зямному парадку, але ўзятыя ў іншай цывілізацыі могуць знайсці дастасаванне і да нас. А, па-другое, вучыцца ніколі не было ганьбаю.

І капітан паверне карабель, экіпаж акажа дапамогу. Там, на планеце, дзе зямляне трапілі ў бяду — ёсць незразумелае, ёсць новае, а мэта палёту: якраз і прынесці гэта новае на зямлю.

Лепшым апавяданнем зборніка, ды, бадай, і лепшым апавяданнем Шыціка, з'яўляецца апавяданне «Трансплутонавыя афеліі». Гэта ўзор псіхалагічнай фантастыкі... Расказ пра чалавека, яго мару, пра гатоўнасць да подзвігу і пра подзвіг. Фантастычны антураж мае чыста дапаможнае значэнне, ён амаль не заўважаецца, эмацыянальным цэнтрам твора з'яўляецца апісанне работы чалавечай думкі... У жыцці амаль кожнага з нас бываюць моманты, калі паступаючая інфармацыя нібыта і задавальняе, але застаецца недзе пакутліва адчуванне «нязведзеных канцоў», сумненне трывожыць, і трывогу можна прагнаць толькі строгім лагічным разважаннем ці эксперыментам.

Менавіта такую сітуацыю паказвае Шыцік. І пры чытанні апавядання не пакідае фізічнае адчуванне той трывожнай думкі, якая не давала спакою герою, пакуль ён не «звёў канцы з канцамі». Дзякуючы гэтай здольнасці адчуваць больш, чым ведаць — герой выратоўвае зорны карабель, які вяртаецца з Космасу.

І яшчэ пра адно апавяданне хочацца сказаць... Яго назва простая: «Агеньчык у цемры». А сэнс раскрываецца толькі ў самым канцы і гэта каштоўны сэнс. Недзе ў глыбінях прасторы знаходзяць рэшткі касманаўта. Знаходзяць побач з ім дзённік, з якога даведваюцца, што пакалечаны, паміраючы чалавек вывеў формулу, якая тлумачыць прычыны пагібелі яго зорнага карабля, ён думаў пра тых, хто можа трапіць у яго становішча і мужнасць яго не прапала. Гэта формула сапраўды выратоўвае жыццё землян, якія знайшлі рэшткі касманаўта...

...Крытыку мы пачыналі з захаплення. «Парсекі за кармой» — пэўны этап у творчасці пісьменніка-фантаста Уладзіміра Шыціка, але трэба ісці далей... далей... Для гэтага ў фантаста адзін шлях: няспынна перапрацоўваць масу навуковай, мастацкай, тэхнічнай інфармацыі, быць у курсе ўсяго, што робіцца на зямлі. Філасофія, сацыялогія, праблемы навукі, мастацтва, чалавецтва — у злучэнні з ідэямі, на першы погляд, фантастычнымі, а па сутнасці рэалістычнымі, дапамогуць пісьменніку стварыць вялікія творы. І справа тут не ў мудрагелістай інтрызе і адважных героях. Галоўная пазнавальная каштоўнасць і аб'ект пазнання — чалавек, усё той жа чалавек.

**С. САЛАДОЎНІКАЎ.**

Ул. Шыцік. «Парсекі за кармой». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

# ЁСЦЬ У ПОЛІТЭХНІЧНЫМ АНСАМБЛЬ...

Вы СУСТРАКАЛІ калі-небудзь у тралейбусе ці на вуліцы юнака, які быццам нічога навакол не заўважае? Ён напявае ўпаўголаса, сам сабе. Часам спыняецца, быццам нешта ўспамінаючы, і зноў працягвае сваё. «Дзівак», — гавораць некаторыя.

Такіх «дзівакоў» шмат у політэхнічным інстытуце. А паколькі ў іх ёсць нешта агульнае, яны абавязкова патыву свайго непаўторнага творчага аблічча. Прыступкаў, па якіх трэба падымацца ансамблю, многа. Што сваё, што бліжэй і даражэй для душы, толькі тое і можа захапіць, прывабіць, зачараваць, і толькі тады пачынаецца сапраўдная творчасць, сапраўднае мастацтва. Мы ведаем многа эстрадных калектываў, у якіх не хапіла настойлівасці і таленту, каб «знайсці сябе». Большасць



Вось яны, «дойліды» з політэхнічнага!

Фота А. ЗУТЭЛЬМАНА

вінны сустрэцца, аб'яднацца вакол адной ідэі. І яны сустрэліся. Іх аб'яднала песня. Так нарадзіўся вакальна-інструментальны ансамбль «Дойліды». Гэта адбылося ў 1968 годзе. Да таго былі спробы, пошукі. Яны вяліся з шэсцьдзесят шостага. Ужо тады ў рэпертуар ансамбля ўвайшлі песні «Жураўлі на Палессе ляцяць» І. Лучанка і народная «Касіў Ясь канюшыну».

Чаму менавіта «Дойліды»? Хлопцы тлумачаць гэта так: «Дойліды шукаюць нешта новае ў архітэктуры, будаўніцтве, мы — у песнях». І трэба сказаць, што знаходкі ў іх ёсць. Гэта і чысціня выканання, арыгінальная аранжыроўка песень, уменне трымацца на сцэне. Але ўсё гэта яшчэ не стварае калекзбілася ці збіваецца на перайманне вядомых айчынных і асабліва замежных выканаўцаў і «бяруць тэхнікай», шумам і крыўляннямі. Ад гэтых «выдаткаў» лёс засцярог «дойлідаў», і перш за ўсё таму, што яны пачалі шукаць свой шлях у правільным напрамку —у раскрыцці хараства беларускай песні.

...Скончыліся заняткі ў БПІ. Хто накіроўваецца дадому, хто ў бібліятэку, хто ў кіно, а ў «дойлідаў» сёння рэпетыцыя. У сем гадзін вечара пачалі збірацца ў актавай зале ўдзельнікі ансамбля. Першым, як заўсёды, прыйшоў Юрый Пікус. Юрый — душа калектыву. У стварэнні новай песні яго роля значная. Усё, што звязана з чысцінёй выканання спевакоў, распрацоўкай песні па галасах — яго справа. Зараз Юрый студэнт чацвёртага курса. Паспявае і вучыцца.

— Хлопцы, пакуль усе падыдуць, давайце паспрабуем адну мясцінку ў «Зорцы Венеры», — звяртаецца Юрый Пікус да Мурата Смольскага і Рыгора Каплана.

Цяжкая мясціна паўтараецца зноў і зноў. Потым у работу ўключаюцца салісты. Іх у ансамблі трое: Рыгор Харык, Генрыэта Угрыновіч і Мая Тананыкіна. Іх прыемныя моцныя галасы нібы ўліваюцца ў ансамбль.

Ёсць у студэнтаў добры ўзор — «Песняры», многія з самадзейных спевакоў нават асабіста з імі знаёмы, і гэта абяцае ў будучым выліцца ў дружбу і ўзаемадапамогу. Калектывы гэта розныя, розныя манеры выканання, розныя інтэрпрэтацыі. Парадніць іх можа толькі адно — любоў да беларускай песні.

Глыбокая і невычарпальная крыніца — беларускі песенны фальклор! Многа добрых, кранаючых сэрца мелодый выйшла і з-пад пяра нашых беларускіх кампазітараў, цудоўныя вершы пакладзены на музыку. «Песняры» ўжо чэрпаюць з гэтых крыніц напоўніцу. Хацелася б, каб пасмялелі і «Дойліды» на сваім шляху да песні. І ў той жа час былі асцярожнымі, адносіліся да народных жамчужын, беражліва захоўваючы ўсю іх непаўторнасць і хараство. І тады мы зможам прарочыць, што калектыў напаткае яшчэ большы поспех.

**Таццяна СУРТАЕВА,**
студэнтка аддзялення журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.

*З пошты «ЛіМа»*

# СВЯТА НЕ АДБЫЛОСЯ

Не так даўно, у канцы красавіка, наш ансамбль выклікалі ў Мінск на агляд народных ансамбляў рэспублікі са справаздачным канцэртам. Мы старанна рыхтаваліся да агляду. Кіраўнікі гаспадарак, дзе працуюць нашы артысты, пайшлі насустрач—вызвалілі іх ад працы. У Мінску нас цёпла сустрэлі.

Але, калі прыехалі на пляцоўку, дзе павінны былі выступаць, адносіны да сябе ўбачылі ўжо не тыя. Мала таго, што канцэрт быў прызначаны на гадзіну дня, час не канцэртны для гледача, кіраўнікі Дома культуры будтрэста № 5 не дазволілі пускаць усіх жадаючых трапіць на канцэрт, хоць і месцы ў зале былі. Чаму? Ды таму, што на тры гадзіны ў гэтай зале быў запланаваны кінафільм. Калектыў, які выступаў перад намі, спазніўся, і нашу канцэртную праграму, разлічаную на дзве з паловаю гадзіны, было загадана скараціць удвая. Гледачы былі задаволены і тым, што мы змаглі паказаць. Сапраўднай справаздачы перад сталічным гледачом не атрымалася.

Хочацца спытаць: навошта такія справаздачы, каму патрэбны такія паездкі ў сталіцу, навошта было людзей зрываць з работы, аплочваць аўтобусы, гасцініцу, сутачныя? Дзеля «галачкі» ў справаздачы Рэспубліканскага Дома мастацкай самадзейнасці?

Мы ехалі ў Мінск на свята мастацтва. Але свята не атрымалася.

**В. АВЯР'ЯНАЎ,**
мастацкі кіраўнік Мазырскага народнага ансамбля «Будаўнік».

КІНО

# НЕ ЎВАХОДЗЬЦЕ: СМЕРЦЬ!

Раскажу пра гісторыю даўнюю, але, думаю, павучальную.

Памятаю, у нашу раённую рэдакцыю прыйшла вестка: местачковага папа міліцыя падабрала ледзь не пад плотам. Набраўся бацюшка, як гразі...

Як кажуць газетчыкі, тэма сама ішла ў рукі. Рашылі мы даць вялікі выкрывальны артыкул. У самых яркіх фарбах я намаляваў, як цягнулі ледзь прытомнага папа ў міліцыю, прывёў выказванні саміх веруючых. Дарэчы, веруючыя, з якімі я пагутарыў, на маё вялікае здзіўленне, дружна лаялі свайго пастара. Ён, як выявілася, быў не толькі заціяты выпівоха, але і вялікі спец па частцы ўсялякіх іншых грахоў. За кароткі час айцец паспеў парушыць ледзь не палову хрысціянскіх запаведзяў — ад «не пажадай жонкі бліжняга» да «не ўкрадзь»...

Пасля артыкула я некалькі дзён хадзіў вельмі горды і лічыў, што з рэлігійным дурманам у нашым раёне пакончана назаўсёды. Зараз у рэдакцыю пасыплюцца пісьмы ад былых веруючых, у якіх яны адракуцца ад царквы і бога і пяройдуць, так сказаць, на рэйкі атэізму.

Пісьмаў такіх, на жаль, мы не дачакаліся. Неўзабаве я разгаварыўся з адным членам царкоўнай дваццаткі, пажылым ужо чалавекам які, калі рыхтаваўся артыкул, даў мне самыя выкрывальныя факты. Нядоўга думаючы, я спытаў яго, як можа ён заставацца веруючым, калі поп такі прайдзісвет. Хітравата ўсміхнуўшыся, ён адказаў:

— Да самай чыстай і святой справы часам прымазваюцца нягоднікі. Хіба ў вас, атэістаў, такога не бывае?

Што я мог яму адказаць? Я пачаў нешта мармытаць пра тое, што бога ўсё ж няма, што рэлігія—опіум для народа і іншыя прапісныя ісціны. Эге ж, на вачах майго субяседніка, якія раптам сталі халоднымі і варожымі, я зразумеў, што гэтыя ісціны толькі для мяне..

У пару, пра якую я расказваю, мабыць, не было газеты, дзе б не выкрывалі служкаў культу. Не ведаю, ці дало гэта вялікую карысць. Расказвалі, што ў адзін раён нейкая высокая царкоўная інстанцыя прыслала ліст, у якім не без іроніі дзякавала мясцовым уладам за крытыку тамашняга папа, маўляў, сваіх рэвізораў у іх не хапае, дык дзякуй за дапамогу.

Прыслалі новага папа і ў наш раён...

Мабыць, мы браліся за справу не з таго канца. Мабыць, і зараз у антырэлігійнай прапагандзе мы часам ідзём па шляху найменшага супраціўлення, бяром тое, што ляжыць на паверхні.

У мяне ёсць знаёмы лектар, які ўжо гадоў дзесяць спецыялізуецца на атэістычнай прапагандзе, з'еў, як кажуць, зубы на гэтым. Нядаўна сустрэў яго, ідзе задаволены. Аказваецца, толькі што прыехаў з Мазыршчыны.

— Ведаеш, — кажа, — дзе б ні выступаў—поўная зала, слухаюць добра, пытанні задаюць.

— А веруючых многа збіралася?

—Веруючых? Веруючыя, браце, на лекцыі не ходзяць.

Сказаў гэтак спакойна, упэўнена. Я разумею, патрэбна і прафілактычная работа. Як прышчэпка супраць воспы. Лекцыя тая ж прышчэпка, на жаль, толькі не такая дзейсная... Ну, а як з тымі, хто «там»? Што ведаем мы пра іх? Распаўсюджаная думка: гэта ў асноўным пажылыя людзі, фанатыкі. Маўляў, бог з імі... Якое небяспечнае самаашуканне! Вам стане адразу зразумела гэта, калі паглядзіце новую дакументальную стужку аб'яднання «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» «Не ўваходзьце, смерць!» (сцэнарыст А. Астроўская, рэжысёр М. Браўдэ, аператар А. Алай).

Адразу аб назве фільма. Не, гэта не пагоня за хлёсткімі словамі, за сенсацыяй. «Не ўваходзьце, смерць!» напісаў над дзвярыма хляўчука Міша Філон, напісаў за пяць мінут да смерці...

Міша быў сынам баптысткі Барадзіцкай секты Анастасіі Філон. Вось яна глядзіць на нас з экрана—тоўстая цётка з посным тварам, на якім ні ценю гора, ні ценю разгубленасці.

— Бог даў, бог узяў, — гаворыць яна, паціскаючы плячыма.

Кроў стыне ад жудаснай трагедыі, што здарылася за сценамі гэтай прысадзістай хаты ў Барадзічах. Што штурхнула адзінаццацігадовага хлопчыка накласці на сябе рукі? Адно ведаюць у вёсцы, што маці бязлітасна лупцавала Мішу за тое, што не хацеў хадзіць у малітоўню.

Дзеці і рэлігія. Не думайце, што спалучэнне гэтых слоў — такі ўжо вялікі анахранізм. Так, для пераважнай большасці нашых дзяцей словы «поп», «малітва», гучаць як «раб», «дыліжанс» — нешта вельмі даўняе па часе і незразумелае. Але ёсць і іншыя дзеці. Для іх рэлігія, калі можна так сказаць, практыка кожнага дня. Паўтараю, іх нямнога, зусім нямнога. Але амаральнасць не вымяраецца, мне здаецца, катэгорыяй колькаснасці. Факт забойства (я не пабаюся сказаць гэтае слова) Мішы Флона пры ўсёй сваёй выключнасці—жахлівы.

І думаецца, правамерна, што аўтары фільма трактуюць праблему сектанцтва менавіта так. Перад гледачом праходзіць галерэя хлопчыкаў і дзяўчынак, зацягнутых мутным вірам «веры хрыстовай». Адным (меншасці) удалося пераадолець плынь, прыбіцца да берагу, другім...

У аснову фільма пакладзены судовы працэс над кіраўнікамі Барадзіцкай абшчыны баптыстаў-раскольнікаў за парушэнне савецкага заканадаўства аб культах. Два словы аб гэтай секце. Некалькі гадоў таму ў царкве евангельскіх хрысціян баптыстаў адбыўся раскол. Частка кансерватыўных баптысцкіх дзеячоў, напалоханая тым, што паствы з кожным годам меншае, выступіла з авантурыстычнай праграмай, якая патрабавала адмены ўсіх законаў аб рэлігійных культах і атэістычнага выхавання школьнікаў.

Асаблівую ўвагу баптысты-раскольнікі, або, як яны сябе называюць, «ініцыятыўнікі», надаюць рэлігійнаму выхаванню дзяцей.

Сціскаецца сэрца, калі ўглядаешся ў гэтыя дзіцячыя твары. Па-рознаму гучаць іх адказы на пытанні суддзі (дзеці праходзілі па судзе сведкамі).

Вось хлопец у акулярах— Вася Шугала. У гэтага хапіла волі вырвацца з секты. Зараз ён жыве і вучыцца ў школе-інтэрнаце. Хвалюючыся, расказвае, як білі яго бацькі, каб хадзіў у малітоўню, прымушалі вучыць псалмы, не дазвалялі насіць піянерскі гальштук, хадзіць у кіно, слухаць радыё, глядзець тэлевізар.

Раіса Папко. Яна таксама зрабіла спробу вырвацца з душнага свету малітваў і забабонаў.

А гэты чарнявы малец гадоў дванаццаці адводзіць убок вочы і цвердзіць адно: «Не бачыў, не ведаю».

Яшчэ адзін. Ад яго адказаў на тварах падсудных — усмешка ад вуха да вуха. Ён ледзь не шпарыць цытаты з бібліі. Не, ніхто яго не прымушаў маліцца, ён сам, па сваёй ахвоце, і ў малітоўню усёроўна хадзіць будзе.

**У свой час мне таксама давялося пазнаёміцца са «справамі» Барадзіцкай секты, з дакументамі судовага працэсу ў Зельве (Барадзічы — Зельвенскага раёна). Пра гэта я ўжо расказваў у нарысе «Барадзіцкія цянёты» («Літаратура і мастацтва», 5 чэрвеня 1970 года). Але пра адзін з дакументаў (ён не ўвайшоў у фільм) варта нагадаць яшчэ раз. Вучань дзесятага класа Ваўкавыскай сярэдняй школы № 5 Аляксандр Прусан на ўроку грамадазнаўства заявіў, што не царкоўнікі, інквізіцыя некалі цкавалі, палілі на вогнішчах атэістаў, а наадварот, атэісты знішчалі веруючых...**

**Вось якія ўсходы дало атручанае семя, што трапіла ў падатлівую дзіцячую душу.**

**Я бачыў у судовай справе канфіскаваную ў падсудных фотакартку, зробленую спосабам фотамантажу. На ёй — пабіты ў кроў чалавек з бібліяй у руках. Подпіс сцвярджае, што гэта быццам бы адна з ахвяр расправы атэістаў з веруючымі...**

І не толькі гэта страшна. Урэшце, не ўсе дзеці баптыстаў, магчыма, застануцца ў секце. Але страшна, што гэтыя дзеці вымушаны жыць двайным жыццём. Днём, у школе, яны вучаць прыродазнаўства, геаграфію, астраномію, чытаюць пра касманаўтаў, вечарам у малітоўні спяваюць: «Ах, если б вид Его мучений на сердце врезался моём! Я всем Тебе, Господь, обязан, Тобой навек я исцелен...»

І гэтак з дня ў дзень. Такое раздваенне не можа прайсці бясследна. Настаўніца Барадзіцкай школы расказвала мне, што многія дзеці з баптысцкіх сем'яў вельмі скрытныя і ў той жа час ліслівыя, няшчырыя.

Мабыць, многія з тых, хто паглядзіць фільм «Не ўваходзьце, смерць!», спытае: «Ну, а што далей? Які лёс гэтых хлапчукоў і дзяўчынак, што прайшлі перад намі на экране»? Сапраўды, што далей? Я быў у Барадзічах праз чатыры месяцы пасля судовага працэсу, пра які расказвае фільм. Трапіў на малітоўны сход. Былі там і дзеці, хаця, як мне потым сказалі, было іх намнога менш, чым раней. І гэта ўжо радуе...

У заключэнне зазначу, што сектанты, калі можна так сказаць, начныя птушкі. Яны баяцца сонечнага святла, яны баяцца чыстага людскога вока. Фільм «Не ўваходзьце, смерць!» выцягвае іх на святло.

**М. ЗАМСКІ.**

Леанід ЛЕВАНОВІЧ



# ДВА АПАВЯДАННІ



Мал. В. ТАРАСАВА.

## ПЕСНЯ ДЗЯТЛА

Прачнуўся я ад галасоў на вуліцы: выганялі на ранкі кароў.

— Мар'я, з кім ты пасвіш? — пыталася сонным голасам суседка цётка Гарпіна.

— З Купраліхай. Яна з правулка выганяе... Мо Адамік яе трохі падсобіць. Ужо ж ладны хлапец. А то дзе ж справішся лётаць за імі! Самы рэз аваднёў...

— Ідзі ў поле, ваўкарэзіна! Хапаеш ты тут...

Гэта ўжо маці пагнала нашу Другоню. У вёсцы па старым звычаі клічку карове даюць у залежнасці ад таго дня, калі яна з'явілася на свет. У панядзелак — значыць Панедзя, у аўторак—Другоня, потым Сярода, Чацвера, Пяцёна, Субота... Сустракаліся Красулі, Чарнухі, але вернасць звычаю ўсё-такі перамагала.

Прагналі кароў. На нейкі момант на вуліцы стала ціха. Праз шчыліны ў пуню цадзілася святло. Ужо было відаць ластаўчына гняздо пад вільчыкам. Яно пуставала. Бацька па восені забіў дзірку ў застрэшшы, каб птахі не псавалі сена. Нялёгка яно даецца, сена, от і даводзіцца дрыжаць над кожным касмылём.

Я ляжаў на ахапку свежага сена. Бацька нядаўна прывёз з лесу пару пошак. «Сена, што чай»,—гаварыў ён, калі я вечарам укладваўся спаць.

Пакуль я думаў так, відаць, узышло сонца, бо вераб'і аж захліпаліся. Гадзіннік паказваў без чвэрці пяць. Уставаць было ранавата, але і спаць не хацелася.

Я падняўся, абуў кеды, пацяг куртку, выпіў конаўку пастаялкі—учарашняга адстоенага малака—і выйшаў.

Лагчына за хатай была заліта расой—трава аж згіналася пад цяжарам срэбраных кропель. Толькі фіялетавыя галінкі мятліка і сівыя таўкачыкі лісахвоста цягнуліся ўгору.

Неўзабаве я выйшаў на палявую дарогу, павярнуў направа, туды, дзе на ўзгорку цямнеўся густы сасоннік, над якім узвышалася яго маці—старая разлапістая сасна-барцявуха. Каля сасонніку збіліся ў кучу, нібы авечкі, камяні. Я сеў на самы вялікі камень і заціх.

Магутная сімфонія прыроды гучала нада мной. Тон задавалі жаваранкі—быццам тысячу званочкаў падвесіў нехта пад купалам неба. Пішчалі, свісталі ў сасонніку лясныя птахі. «Піць-падаць», «піць-падаць»—абзывалася ў жыце перапёлка. Са свістам праляцела над галавой чародка шпакоў. Над курганам, за вёскай, якая плавала ў шызым тумане, з прарэзлівым крыкам кружыліся вароны і галкі.

У ранішнюю песню прыроды ўплятала свае гукі і вёска. Недзе рыкала цяля, кукарэкалі пеўні...

Рантам з лесу пачулася гулкае тарахценне, быццам нехта часта-часта біў у барабан. Я мінуў сасоннік і вузкай, зарослай дарогай, пакрочыў да лесу. З правай рукі сцяной стаяла жыта, з левай—зелянелі ўсходы аўса з вікай. Мабыць, пасеялі яго на зялёны падкорм. А пакуль што тут жыравалі цецерукі. Цэлая чарада іх залапатала крыламі, адляцела трохі далей і села—зноў спедаць.

А «барабан» біў ва ўсю моц, і я прыбавіў крок.

У лесе было ціха і пуста. Пахла прэлым мохам, мокрым лісцем. Ішоў я напрасткі, на «барабан». Прадраўся праз кусты, мінуў густы, але светлы бярэзнік. Пачынаўся сасновы бор. «Барабан» біў дзесьці зусім блізка. Я падняў галаву. Вось ён! На вяршыні сасны-сухастойкі сядзеў дзяцел. Ён круціў галавой, прыслухоўваўся, потым адкінуўся і моцна забарабаніў дзюбай па суку. Трах-тах-тах-трр-р-р—пакацілася па лесе.

Доўга я слухаў ягоную песню. Потым выйшаў з-за дрэва, каб падысці бліжэй, лепш разгледзець барабаншчыка. Дзятлу гэта не спадабалася. Ён пераляцеў на суседнюю сасну і заціх... Прыйшлося адступіць назад. Але ў дзятла, напэўна, прапала натхненне.

Ногі мае ў мокрых кедах зусім зайшліся. Я выбраўся на дарогу, і, каб сагрэцца, трушком пабег дадому.

Выбегшы на поле, спыніўся. Сонца паднялося вышэй, туман развеяўся. На чыстым высокім небе не было аніводнай хмаркі. Трах-тах-тах-трр-р-р—зноў пачулася з лесу. Ад нечаканасці я ўздрыгнуў і, мяне нібы апякло:

— Сёння ж дваццаць другога чэрвеня...

Не, не хацелася верыць, што вось у такую цудоўную раніцу заглушылі птушыны грай гарматы і кулямёты. З такога сіняга, чыстага неба ляцелі бомбы, сыпалася смерць...

Вайну я памятаю слаба. Мне не было і трох гадоў, калі яна пачалася. Але ж раніца тая была...

У тую раніцу мой старэйшы брат з выпускнога вечара ў школе пайшоў у ваенкамат. Потым прыслаў ліст з дарогі.

Неўзабаве вёску занялі фашысты. А калі прагналі іх, прыйшло паведамленне: «... погиб смертью храбрых».

Застаўся атэстат сталасці з адзнакамі «добра» і «выдатна». І адзіная фотакартка—выпускны дзесяты «б». І памяць... Памяць назаўсёды!..

Паволі крочыў я па дарозе. З-пад ног вырвалася чародка перапёлак. Што яны рабілі на дарозе? Аказваецца—дзяўблі дробненькіх палявых мурашак—іх хаткі-шчылінкі былі падрапаны птушынымі кіпцюрамі.

А магутная ранішняя сімфонія ўсё гучала. Свяціла, грала сонца. Прырода спраўляла свята—адзначала вяршыню летняга хараства і сілы.

Над вёскай сталі слупы дыму. Ружавеў дымок і над нашай хатай. Маці, напэўна, варыць бульбу, пячэ пульхныя грэцкія бліны.

Першы блін, пасыпаны соллю, яна пакладзе на чысты ільняны абрус—«радзіцелькам дарагім і Сяргейку-сыночку», змахне фартухом слязу, і зноў будзе завіхацца ля печы.

Я падыходзіў к дому. А з лесу ўсё чуўся шматгалосы спеў птаства, і ў ім—стук дзятла — ягоная песня.

## БРЫТВА

На прыпынку, як заўсёды ў канцы дня, было людна. І калі падышоў тралейбус, да яго рынуліся ўсім натоўпам. Рудак нечакана апынуўся ля дзвярэй і, сам таго не жадаючы, увайшоў першы. Сеў ля акна і адразу палез у кішэнь па «вячорку». Разам з газетай ён выцягнуў сіні пакамячаны канверт.

«От, ёлупень! Цалюткі дзень насіў бацькава пісьмо. Не мог прачытаць. Ну, і галава—дакараў сябе Рудак.—Добра, што не згубіў. Увогуле, дзянёк сёння быў гарачы...»

Рудак працаваў зменным майстрам у ліцейным цэху — пасада адна з самых клапатлівых, а цэх—самы цяжкі на заводзе. Накіравалі яго сюды адразу пасля інстытута. Спачатку думаў, што доўга не вытрывае, а пасля пакрысе ўцягнуўся і вось пяты ўжо год працуе і пераходзіць не збіраецца. Чалавек ён быў спакойны, па-сялянску памяркоўны і, не зважаючы на маладосць, яго лічылі вопытным спецыялістам. Нядаўна на партыйным сходзе сам дырэктар зазначыў, што Рудаку можна смела даверыць цэх...

Перапоўнены тралейбус мякка пагойдваўся, перад вачыма скакалі і без таго няроўныя—адна туды, адна сюды—літары бацькавага ліста. Пасля паклонаў, пажаданняў здароўя, весялосці і поспехаў у рабоце, пасля звестак пра тое, што бульбу ўжо выбралі, што сена і дроў на зіму хопіць, няроўнымі літарамі, без ніводнай коскі (з усіх знакаў прыпынку бацька прызнаваў толькі кропкі) старэйшы Рудак пісаў:

«З адным пытаннем да цябе Міхась. Нешта забарахліла мая лектрабрытва. Працуе з перабоямі. Як калі захоча. Думаў разетка вінавата. Насіў да суседзяў брытву. Дык не. І там не працуе. Якая ёй трасца. І гарантыйны тэрмін не адрабіла. Год ёй будзе ў канцы лістапада. У інструкцыі вычытаў я адрас гарантыйнай майстэрні. Калі будзеш мець час даведайся. Ці могуць яны зрабіць. Дык я б выслаў брытву. А мо сам пад'еду. Цялё збіраемся рэзаць. Падкінуў бы цяляціны...»

Далей, як заўсёды, ішлі парады сыну і нявестцы: лепш есці, не эканоміць «на харчах», не ганяцца за трантамі, быць паміж сабой памяркоўнымі. Рудак не мог чытаць гэта без усмешкі. І ўсё-такі яму было прыемна. Ён паважаў і любіў бацьку, цярпліва прымаў бацькоўскія «мэркамэнты» і натацыі—маўляў, што зробіш, старыя любяць павучаць.

Рудак яшчэ раз прагледзеў бацькаў ліст, акуратна склаў яго ў канверт, схаваў у кішэнь: трэба даць жонцы, яна любіць чытаць пісьмы свёкра.

За газету Рудак так і не ўзяўся. Нахлынулі ўспаміны. Успомнілася, як летась, увосень бацька прыслаў тэлеграму: «Сустракайце 5».

— Нічога не разумею... Калі сустракаць? Ні поезда, ні вагона,—пацісвула плячыма Тамара, Рудакова жонка.

— Дзівачка, у Оршы ж перасадка. Адкуль яму ведаць які поезд і вагон... Неяк прыязджаў ён раней, дык я тры разы бегаў на вакзал. Усе паязды з Оршы сустракаў. Вопыт маю,—усміхнуўся Рудак.—Пятага—заўтра. Значыць, заўтра і будзе госць.

Бацька прыехаў у сем гадзін вечара. Рудак адразу пазнаў яго ў натоўпе пасажыраў па рыжай вушанцы.

— Ну, ці даўно ж ты дзяжурыш тут? А я думаю, наўдаку ты мяне сустрэнеш. Не паспееш з работы. Добра, што паспеў,—гаварыў бацька, падаючы руку. Сын адчуў, што рука старога па-ранейшаму моцная, цвёрдая.—І барады яшчэ не зняў? На ліха яна табе.... Ну, паказвай, куды перабраўся. Не дужа далёка ад той, старой?

— Паедзем зараз. Убачыш...

Калі падыходзілі к дому, бацька ўсё азіраўся: стараўся запомніць дарогу да новай кватэры сына. Заўважыў траву збоч тратуара, здзівіўся:

— Бач ты, трава, як воўна. Тут карову можна пасвіць.

Увайшоўшы ў кватэру, ён павітаўшыся з нявесткай, пачаў сцягваць боты. Маленькая Людка здагадалася падаць дзеду табурэцік.

— Малайцом, унучачка. Правільна, — бацька ўсунуў ногі ў сынавы пантофлі, агледзеў кватэру. — Ну, дык што ж, таварыш дарагі, харошая кварціра. Цёплая, а гэта—самае галоўнае. Пра дровы галава не баліць...

Потым бацька памыўся ў ванне, выпіў кілішак гарэлкі і, зручней уладкаваўшыся на канапе, разважаў:

— Цяпер жыць можна... У Оршы я прыглядаўся. Людзі, брат, гладкія, сытыя, апрануты добра. Не шкадуюць, каб паесці і апрануцца па-людску. І правільна. А чаго там трэсціся над капейкай?—бацька памаўчаў, потым гучна ўздыхнуў:—Ух-яё...

Рудаку здалося, што гэты ўздых пачулі ўсе пяць паверхаў.

Назаўтра была субота. І Рудак з раніцы павёў бацьку ў горад. Ён крочыў так спора і шырока, што сын, які быў на галаву вышэйшы, ледзь паспяваў за каржакаватым старым. Звычка, відаць: бацька гадоў дваццаць быў брыгадзірам у калгасе, давялося пахадзіць, пагойсаць па полі з «цыркулем-шагамерам»...

На праспекце заходзілі ў магазіны. Купілі кофту і галёшы на валёнкі для маці, а сабе бацька ніяк не мог нічога падабраць.

— Такую абшырнасць займае горад! Гэта не хаханькі — столькі панабудаваць! Я быў тут у сорак пятым, як з хронту ехаў. Усё было разбурана, папалена. Хто мог падумаць, што такім стане горад...

Рудак памятаў той дзень, калі бацька прыйшоў з вайны. Як чакаў ён таго дня! Як хваляваўся і палохаўся, што не пазнае татку. Часта пытаўся ў маці: «А татка наш дужы, вялікі? Ён усіх фрыцаў пабіў? Так?»—«Так, сынуля, так. Бацька наш дужы і добры. Ён любіў з табою гуляць. Усё, бывала, падкідваў пад столь, а ты крычаў: «У-ла! У-ла!»

І ўсё ж спалохаўся і нават заплакаў, калі шыракаплечы, вусаты салдат з бліскучымі медалямі на грудзях моцна прыціснуў да сябе, колючы вусамі і няголеным шчэццем. Рудак і зараз памятаў дотык калючых бацькавых вусоў: трэцяя памяць—памяць цела—запомніла тое назаўсёды...

Рудак міжволі дакрануўся да сваёй барады, зірнуў на бацьку. Вусоў у яго не было. Пад старасць ён чамусьці адмовіўся ад барады і галіўся дужа старанна. І выглядаў у свае семдзесят зайздросным мацаком.

— Здорава, здорава, столькі панабудаваць! Гэта ж учудзіцца можна! Так прадзелаць, га?.. І такое мнагалюддзе. Такі збой людзей. А я збіраўся нешта купіць. Дзе ты тут падступішся!?

— Не турбуйся, купім. Усё ж ёсць,—сказаў сын.

— Ат, дзе яно ёсць? Нават хатніх пантофляў няма. А ў нас у раймагу іх да халеры... Дажджавік той, што мы глядзелі, не гадзіцца.

# ПРЫГАЖОСЦЬ— ГЭТА НЕАБХОДНАСЦЬ

КАЛІ ў канцы мінулага стагоддзя ў Парыжы была пабудавана Эйфелева вежа, адбыўся скандал. Вядомыя пісьменнікі, мастакі, дзеячы культуры заявілі пратэст супраць «пачвары», якая пагражае традыцыйнаму французскаму густу.

Агульнавядома, што праз дваццаць гадоў вежа стала эмблемай Парыжа і сімвалам індустрыяльнай эстэтыкі. Тым самым было, нарэшце прызнана, што машынная тэхніка можа ствараць узоры дойлідства, не горшыя за гатычныя аркі.

Сёння, у век тэхнікі і прагрэсу, у век масавай вытворчасці, удзел мастака ў праектаванні і стварэнні любой рэчы, ад аўтаручкі да самалёта,— усвядомленая неабходнасць.

Чарговая, III Усесаюзная выстаўка па мастацкім канструяванні, якая адкрыта ў Мінску, звярнула на сябе ўвагу не толькі канструктараў, мастакоў, але і людзей, не звязаных непасрэдна з вытворчасцю,— тых, хто хоча купляць і карыстацца патрэбнымі, зручнымі і прыгожымі таварамі. Падобныя выстаўкі, апрача таго, што дэманструюць пэўныя дасягненні, дапамагаюць выявіць і вывучаць попыт і густ насельніцтва.

Размешчаная ў выставачнай зале Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі, экспазіцыя добра, з густам аформлена, І таму першае ўражанне ад яе — самае прыемнае. Шчытысценкі, разгароджваючы залу, ствараюць уражанне вялікай прасторы, даючы магчымасць выдзеліць кожную рэч. Спалучэнне ў афармленні двух колераў — белага і блакітнага, падкрэслівае адчуванне прасторнасці і нават святочнасці.

Мэта выстаўкі — паказаць уплыў эстэтыкі на вытворчасць, на фарміраванне самых разнастайных прамысловых тавараў.

Калі на першай Усесаюзнай выстаўцы расказвалася пра тое, што сабой уяўляе мастацкае канструяванне, то на гэтай дэманструецца вынік работы мастакоў-дызайнераў у выглядзе канкрэтных прамысловых вырабаў. Тут прадстаўлены прадметы быту — мэбля, радыё і тэлеапаратура, кухоннае абсталяванне, шкло, свяцільнікі, адзенне. Прадметы грамадскага карыстання — прылаўкі і абсталяванне для магазінаў і сталовых, дзіцячых садоў (у макетах). Транспарт — аўтамабілі, матацыклы, мадэлі самалётаў, фота аўтобусных салонаў, а таксама станкі, вылічальная тэхніка, электравымяральныя прыборы.

Разнастайнасць прадметаў на выстаўцы з такой тэмай, як мастацкае канструяванне, заканамерная. Прадстаўленыя прадметы павінны ўзнавіць цэласны вобраз асяроддзя, у якім жыве, вучыцца, працуе і адпачывае чалавек. Такая выстаўка, калі яна дастаткова поўная, прадуманая, можа стварыць вобраз часу, адлюстраваць эстэтычны ўзровень грамадства.

Адкінуўшы першае ўражанне, прыгледзімся да выстаўкі больш пільна, можа нават больш прыдзірліва. Што адлюстроўвае выстаўка. Які стан мастацка-канструктарскай апрацоўкі прамысловых тавараў, што дэманструюць прадпрыемствы Беларусі.

Больш-менш поўна прадстаўлены два раздзелы — праца і быт.

Раздзелу выстаўкі, які мы ўмоўна назвалі «праца», папярэднічае думка, сфармуляваная на адным з планшэтаў: «Інфармацыйная выразнасць знешняга выгляду машыны — прадпасылка эканамічнасці і зручнасці яе выкарыстання». Безумоўна, знешні выгляд машыны, распрацаваны пры ўдзеле вучонага, канструктара і мастака, спрыяе павышэнню прадукцыйнасці працы не толькі сваімі тэхналагічнымі дадзенымі, але і эстэтычным уздзеяннем. Прыгожая машына выклікае павагу да яе, павышае культуру працы.

У нашы дні мяняюць сваё аблічча заводскія цэхі. Змяняюцца ўмовы працы, змяняюцца і патрабаванні да інтэр'ера і да вонкавага выгляду станка.

Гэтыя патрабаванні ўлічылі канструктары Аршанскага завода швейных машын, якія разам з мастакамі Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі распрацавалі замацавальны паўаўтамат 220 класа.

Прыгадайце швейную машыну нашых бабуль «Зінгер». Корпус, кола, ручка, скрыня нібы існавалі самастойна. Пафарбаваная ў чорны колер, яна была размалявана ад рукі залацістым арнаментам. Вельмі ўтульна, відаць, яна выглдала ў пакоі з камодам, буфетам, разбёнай мэбляй. І цяжка яе ўявіць у абстаноўцы нашых гранічна простых інтэр'ераў. На змену прыйшла машына «Орша V». Дробныя дэталі заключаны ў адзін корпус строгай і простай формы. Асобныя плоскасці злучаны крыху закругленымі пераходнымі лініямі. Афарбавана машына ў мяккія, пастэльныя таны. Дробныя дэталі не адцягваюць увагу швачкі.

Паказаная на выстаўцы мадэль швейнага паўаўтамата ўвабрала ў сябе ўсе вартасці існуючых машын. Яна вельмі кампактная, пластычная, яе канструкцыя падпарадкавана адзінаму стылю. Зручны стол,— справа падвеска для бабіны, кнопкі пераключэння пафарбаваны ў чырвоны колер, злева — скрынка для інструменту, уверсе — з'ёмная крышка. Такое размяшчэнне рабочых месц стварае кампазіцыйную раўнавагу і зручнасць у рабоце. Усе рабочыя механізмы схаваны пад адным кожухам. Зараз вонкавы выгляд паўаўтамата адпавядае тэхнічным дадзеным, за якія машына атрымала знак якасці. Машына прайшла выпрабаванні, яе стваральнікі атрымалі патэнт на вынаходніцтва.

Прадстаўленыя Мінскім домам мадэлей жаночыя сукенкі з грубашэрснай тканіны адпавядаюць сучаснаму кірунку моды. Падоўжаныя па сілуэце, строга аблягаючыя фігуру, з вузкімі з маленькай proймай рукавамі, яны канструктыўныя па задуме. Мастак толькі ўнёс некаторыя дэталі, што зрабілі сукенку больш жаноцкай. У стварэнні такіх мадэлей надта прыкметна рука канструктара. Калі рамантычны лёгкі сілуэт, модны ў мінулыя гады, даваў мастаку вялікую прастору для фантазіі (там ён ляпіў як скульптар), то ў сучаснай модзе фасон вызначан самім кроем. У ім закладзены ўсе падрэзы, прыпускі і г. д. Фасон выконваецца ўжо ў самім кроі. Пры масавай вытворчасці а дзення такое рашэнне непазбежна, таму што фасон мадэлюецца не для ручной апрацоўкі, а для машыны.

Вось, бадай, і ўсё што можна было б назваць з больш цікавых работ апошніх гадоў, а між тым на выстаўцы прадстаўлены вырабы дванаццаці прадпрыемстваў Беларусі. Сярод іх— Мінскі мотавелазавод, завод імя Арджанікідзе і іншыя. Апрача таго, што прадметаў шырокага ўжытку зусім нямнога, некаторыя з іх непрыгожыя і здаюцца выпадковымі на выстаўцы.

Не будзем спыняцца ля стэндаў з шклопрадукцыяй заводаў «Нёман» і імя Дзяржынскага. Два-тры большменш удалыя прыборы для віна і піва не затрымліваюць увагу гледачоў хоць бы таму, што гэтыя альбо вельмі падобныя мы ўжо бачылі на пастаяннай выстаўцы ў фірменным магазіне «Крышталь». Не спыняе ўвагі і стэнд са свяцільнікамі. Настольную лямпу «Томас» і бра «Талін», выкананыя ў традыцыях эстонскага нацыянальнага мастацтва, абмінем не таму, што яны нам не падабаюцца. Такі свяцільнік добра падыходзіць для пярэдніх нашых малагабарытных кватэр. Але ж і гэта не навінка. Іх мы бачылі пяць гадоў назад.

Затрымаемся на парозе жылых пакояў — кухні, дзіцячых і агульных пакояў. Эканомны падыход да карыснай плошчы (а гэта так важна!), гігіенічная афарбоўка, практычная прастата форм — безумоўна аблегчаць працу хатняй гаспадыні. Любая рэч, якая знаходзіцца ў доме, павінна выхоўваць густ. Асабліва гэта важна, калі ў доме дзеці. Цікавыя зборныя кубікі для дзяцей дэманструе канструктарскае бюро Новасібірска. З вялікіх прамых, жоўтых, зялёных квадратаў, кругоў, трохвугольнікаў можна скласці і дом, і машыну, і вежу замка. Была б фантазія. А яе, іншы раз, не хапае і дарослым дзядзькам. Варта паглядзець на шэраг крэслаў для сельскіх клубаў, каб зрабіць такі вывад.

Тут і пластмасавыя, і драўляныя, і пафарбаваныя, і абітыя. Аднолькавыя яны ў адным — ні на адзін з іх не хочацца сесці. Не трэба быць спецыялістам, каб зразумець, што такія крэслы з вузкімі сядзеннямі—зручныя толькі тым, што яны эканомяць плошчу.

На выпадак, калі трэба аслабаніць залу, крэсла клеенае, а таксама крэсла універсальнага ўжытку, як сказана ў анатацыі, можна «складваць не толькі па вертыкалі, але і блакаваць у рады і нават ставіць адно на адно — гэта значыць — штабеляваць». Пры ўсёй фантазіі цяжка ўявіць сабе інтэр'ер, дзе б «упісалася» такое крэсла.

Цяжка сказаць што-небудзь пэўнае пра мэблю для агульнага пакоя. Распрацаваны Мінскім эксперыментальна-канструктарскім бюро мэблі гарнітур для жылога пакоя нагадвае сабой тыя, што выпускаюць прадпрыемствы ГДР. Наборная сценка-стэлаж нічым не адрозніваецца ад вядомай пакупнікам вільнюскай секцыйнай мэблі, хіба толькі намнога даражэйшая. Узнікае пытанне — якую мэту ставілі перад сабой арганізатары выстаўкі, адводзячы месца такім мала арыгінальным рэчам? Ні мастацкі, ні канструктарскі бок іх не з'яўляюцца прыкладам дызайнерскай думкі.

Мабыць, нам, так сказаць, спажыўцам, імкнуліся паказаць не лепшае, а толькі тое, што можна сустрэць у магазінах (сустрэць, але не купіць). Але і ў такім выпадку можна было б падабраць узоры мэблі тых фабрык Беларусі, якія выпускаюць і больш арыгінальную і больш сучасную з пункту гледжання мастацкага канструявання прадукцыю.

Складаецца ўражанне, што некаторыя рэчы трапілі сюды выпадкова і не сведчаць аб выкарыстанні дасягненняў тэхнічнай эстэтыкі. Можа стацца, што на падборы экспанатаў выстаўкі адбіліся недахопы арганізацыі. Але ці аднымі недахопамі арганізацыйнай работы абумоўлены яе хібы? А ці не адлюстроўвае выстаўка той факт, што мастацкае канструяванне яшчэ не заняло адпаведнага месца ў нашай вытворчасці? Што многія важныя для народнай гаспадаркі і пакупнікоў вырабы выпускаюцца без кваліфікаванай мастацка-канструктарскай апрацоўкі?

У нашы дні поспех тавараў вызначаюць не толькі высокія інжынерныя паказчыкі, але і высокія спажывецкія якасці, прыгожы вонкавы выгляд і зручнасць пры ўжыванні. Клопатамі аб паляпшэнні якасці тавараў вызначаецца апублікаваная ў красавіку 1962 года пастанова ўрада «Аб паляпшэнні якасці прадукцыі машынабудавання і тавараў культурна-бытавога прызначэння шляхам укаранення метадаў мастацкага канструявання». Былі створаны спецыяльныя канструктарскія бюро і навукова-даследчыя інстытуты, пачалі выпускаць спецыялістаў па дызайне вышэйшыя навучальныя ўстановы. У кастрычніку 1968 года была апублікавана пастанова Савета Міністраў СССР «Аб паляпшэнні выкарыстання дасягненняў тэхнічнай эстэтыкі ў народнай гаспадарцы». Аб мастацкім канструяванні многа гаварылася ў друку. Але на практыцы толькі **нямногія** прамысловыя тавары вызначаюцца эстэтычнай і канструктыўнай дакладнасцю. Ва ўсякім выпадку такое ўражанне пакідае трэцяя Усесаюзная выстаўка па мастацкім канструяванні.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

# ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ ТВОРЧАСЦІ

У ВЫСТАВАЧНАЙ зале Саюза мастакоў БССР нядаўна адбылася выстаўка работ беларускай мастачкі Таццяны Яўгеньеўны Разінай, прысвечаная 30-годдзю яе творчай дзейнасці.

Высокая прафесіянальная культура, уменне пранікнуць у задуму драматурга і рэжысёра вызначылі поспех работы Т. Разінай як мастака тэатра. Ёю створаны выразныя эскізы дэкарацый да «Машэкі» Р. Пукста, «Барыса Гадунова» М. Мусаргскага, «Брэсцкай крэпасці» К. Губарэвіча, «Дзён нашага нараджэння» І. Мележа, «Трох апельсінаў» К. Гоцы, «Сцяпана Разіна» А. Касьянава. У гэтых работах мастачкі — вострае пачуццё гісторыі, умельства падкрэсліць характар эпохі.

Вось, напрыклад, эскізы дэкарацый да «Сцяпана Разіна». І ярка-чырвоны каларыт, і кожная дэталь — усё іграе на вобраз.

Лаканічныя і абагульнена напісаныя дынамічныя дэкарацыі да «Брэсцкай крэпасці». У іх — атмасфера поўнай напружання гераічнай эпапеі славутай цытадэлі.

У Т. Разінай не толькі свой характэрны, індывідуальны мастакоўскі почырк, але і сваё разуменне таго або іншага драматургічнага твора.

Суровы, поўны ўнутранага парыву пейзаж у дэкарацыях да «Дзён нашага нараджэння» І. Мележа. Мы адчуваем, як мастачка перадае нарастанне напружання падзей. Пастуопова, ад эскіза да эскіза, розныя дэталі быццам узбуйняюцца, падкрэсліваючы бурлівае нарастанне рэвалюцыйных падзей у перадкастрычніцкім Мінску.

А з якой упэўненасцю мастачка працуе ў жанрах нацюрморта, пейзажа!.. Яе нацюрморты — розныя па змесце. І напісаны яны настолькі тэхнічна па-рознаму, быццам створаны рознымі майстрамі.

Уменне мастачкі знайсці ў з'явах прыроды, у акружаючым чалавека прадметным асяроддзі асаблівае, непаўторнае— літаральна здзіўляе. Работы Т. Разінай вядуць гледача ў свет змястоўных эмоцый. У гэтым свеце актыўна скарыстоўваюцца выяўленчыя магчымасці колеру. Нельга не захапляцца ўмельствам мастачкі ярка, сакавіта перадаваць прыгажосць штодзённага жыцця. Так, цікава задуманы і цікава напісаны «Нацюрморт з сабакам». Удала знойдзеныя суадносіны зялёнага з чырвоным у нацюрморце «Хурма» асабліва памагаюць адчуць той непаўторны водар, якім славяцца дары прыроды поўдня.

Нацюрморты Т. Разінай бываюць няпростыя для ўспрыняцця. Яны часам раскрываюць патрэбу мастака выйсці за межы ўстаноўленага традыцыяй жанру. Іншы раз нас здзіўляе ў іх нязвыклае спалучэнне такіх прадметаў, як, напрыклад, дзіцячая цацка, талерка з хлебам, кубак, букет у вазе. Але як па-майстэрску знаходзіць мастачка кожнаму з прадметаў належнае месца, дзе кожны з іх гаворыць на поўны голас і пра сябе, і пра гарманічную унутраную сувязь, адзінства з астатнімі. Неабходна валодаць вялікім пачуццём кампазіцыі, разумець тую асаблівую музыку колеру, якія памагаюць падкрэсліць гэтае адзінства, гэтую гармонію — ад дробных дэталей і да формы выяўлення задумы.

І так — ва ўсіх лепшых работах Т. Разінай. У «Сашавых цацках». У «Нацюрморце з перцам». У пейзажы «Вячэрні Мінск». І ў многіх іншых.

Раздумваючы аб прыгажосці штодзённага, простага, мастачка гаворыць пра глыбока змястоўнае. Яе работы, вольныя ад натуралістычнай фіксацыі жыцця, нясуць на сабе адбітак няспынных пошукаў формы, багатай рэалістычным зместам.


Т. РАЗІНА. Браслаў. Мальвы.

**Р. БАДЗІН.**

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа паказаў спектакль па п'есе М. Матукоўскага «Амністыя». Рэжысёр — У. Забела, афармленне народнага мастака БССР Я. Нікалаева, кампазітар — Б. Насоўскі, балетмайстар Л. Барадулька. На здымку — сцэна са спектакля. Ізабела Дрозд — артыстка Г. Бальчэўская, Добрых — народны артыст БССР М. Звездачотаў, Бажашуткава — артыстка А. Мельдзюкова.

Фота С. КОХАНА.

# ПЕСНІ, НЯТЛЕННЫЯ Ў СТАГОДДЗЯХ

Сярод найвялікшых лірыкаў свету пачэснае месца па праве займае Шамсадзін Мухамад Хафіз Шыразі, 650-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца ў гэтыя дні.

«Каму ў стагоддзях тленных нятленны выпаў лёс?»

На гэта пытанне паэта ўжо адказала шматвяковае жыццё яго цудоўных песень, адказвае сённяшняя яго сусветная вядомасць і слава.

Несмяротныя газелі Хафіза — адна з самых яркіх старонак у гісторыі таджыкска-персідскай літаратуры класічнага перыяду. Высокі гуманістычны пафас, услаўленне жыцця і яго зямных, чалавечых радасцей, гнеўнае адмаўленне несправядлівасці і жорсткасці ў свеце, дзе лёс простага чалавека ўражвае сваёй трагічнай неўладкаванасцю, нарэшце, з'едлівая крытыка ў адрас духавенства, смелае асуджэнне яго крывадушша і ханжаства, — вось тыя галоўныя рысы і якасці, што забяспечылі зайздросную даўгавечнасць і папулярнасць паэзіі славутага майстра са старажытнага Шыраза.

Нядаўна народны паэт Таджыкістана Мірзо Турсун-задэ пісаў, што варта ў любым кутку зямное кулі вымавіць: «Самарканд аддам, а трэба — з Бухарою нават разам, — за пагляд і за радзімку той цюрчанкі, што з Шыраза!» — каб слухачы тут жа ўсклікнулі: «Хафіз!». У гэтым, бадай, няма перабольшання. Творчасць вялікага паэта Усходу даўно стала духоўным набыткам усяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Прапаную ўвазе чытачоў адну з газелей Хафіза ў перакладзе на беларускую мову.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

**ХАФІЗ**

●

Вераломства ўсюды душыць, як
пятля,
Болей вернасці не ведае зямля.

Хто і розумам багаты і душой —
Як жабрак перад нікчэмнасцю,
як тля.

Нават той марнее-чахне
ад турбот,
Хто па праве варты трона караля.

Раскашуе толькі невук-шарлатан:
Чыстым срэбрам асыпаюць
круцяля.

А паэту, што бясхітрасным
радком
Весяліць нам сэрцы зблізку
і здаля, —

У аддзяку, будзь ён нават Санаі,[1]
Не падораць і счарсцвелага
скрыля.

Вось што мудрасць гаварыла
ўчора мне:
«Ахініся ўласнай песняй —
без жылля!

Будзь усцешаны і помні, мой
Хафіз:
Перш ты згінеш, а праславішся —
пасля!»

---

[1] Санаі — славуты таджыкска-персідскі паэт XIV ст.

Кожная харэаграфічная пастаноўка Атара Дадзішкіліяні, яго творчыя пошукі новых выяўленчых сродкаў, імкненне ўзбагаціць «мову» і «дыялекты» танца выклікаюць у мяне цікавасць і душэўны неспакой. Радуешся знаходкам балетмайстра, «выдаткі» творчасці засмучаюць. На магістральным шляху развіцця беларускага нацыянальнага балета рэжысура заўсёды эксперыментавала. А тут без страт не абысціся. Прыгадаем А. Ермалаева, які з выдатным эстэтычным густам, панаватарску паставіў «Салаўя» М. Крошнера, — ён жа потым паказаў надзвычай спрэчны твор «Палымяныя сэрцы» В. Залатарова. Або прыклад К. Мулера — знаўцы класікі, традыцыйных вырашэнняў балетаў Чайкоўскага харэографамі Пеціпа, Івановым, Горскім; ён не знайшоў адэкватных фарбаў і пластычнага эквівалента музыцы Г. Вагнера ў «Падстаўной нявесце».

Што заслугоўвае прызнання ў спектаклях, якія пастаўлены А. Дадзішкіліяні і з чым можна паспрачацца? Цяперашні галоўны балетмайстар нашага тэатра не адмаўляецца ад знойдзенага яго папярэднікамі, але гаворыць «сваім голасам», не абмяжоўваецца рамкамі даўно вядомай і выпрабаванай часам танцавальнай мовы, не паўтарае пластычныя кампазіцыі вядомых харэографаў. Яго клопат — пошук новых дыялогаў і маналогаў, асабліва ў сучасным рэпертуары.

Дадзішкіліяні мае сваю пазіцыю ў галіне выкарыстання фальклору, незлічоных багаццяў народнай творчасці. Ён не адмаўляе іх самастойнай каштоўнасці, але на практыцы, прызнае нацыянальны, этнаграфічны танец пераважна ў гарманізацыі, ва ўласнай і кампазітарскай «аранжыроўцы». У «чыстым», не апрацаваным выглядзе, фальклор, як відаць, не акрыляе балетмайстарскай фантазіі, яго творчага ўяўлення.

Супраць гэтага нельга асабліва пярэчыць таму, што кожны адлюстроўвае рэчаіснасць згодна са сваім «бачаннем», разуменнем тыпізацыі, адпаведна індывідуальнаму «почырку».

**Складаная праблема — сінтэз і ўзаемаўзбагачэнне мастацтваў, стаўленне харэаграфіі да здабыткаў драматычнага тэатра і засваення сістэмы К. Станіслаўскага.**

**Што пра гэта сказаў геніяльны рэжысёр?**

**«Балет, — цудоўнае мастацтва, — пісаў К. Станіслаўскі, — але... не для нас, драматычных артыстаў. Нам патрэбна іншае. Іншая пластыка, іншая грацыя, іншы рытм, жэст, хада, рух. Усё, усё іншае... «Я лічу, што Ібсена не трэба ставіць як балет, а «Шчаўкунчыка» як драму».**

**З гэтага не вынікае, што ўзаемаўзбагачэнне, творчае, а не механічнае (у сэнсе капіравання прыёмаў), супрацьпаказана балетнаму і драматычнаму тэатрам, што ў іх няма нічога агульнага.**

**Дадзішкіліяні намагаецца, захоўваючы спецыфіку балетнага спектакля, не пераймаць механічна драматычны тэатр, а карыстацца «сістэмай», зыходзячы з патрабаванняў і прыроды танца.**

Значная ўдача — «Спартак». Харэограф крытычна паставіўся да зробленага папярэднікамі (у ленінградскім тэатры імя С. Кірава і ў Вялікім тэатры Саюза ССР) і па-творчаму запазычыў толькі тое, што найлепш раскрывае партытуру таленавітага кампазітара. Думкі рэжысёра сугучныя пошукам выдатнага музыканта.

Як прызнае сам А. Хачатуран, ствараючы музыку, «заўсёды адчуваў духоўную блізкасць Спартака нашай эпосе, нашай барацьбе супраць усялякай тыраніі, барацьбе прыгнечаных народаў супраць імперыялістаў-агрэсараў».

У спектаклі беларускага тэатра ёсць гістарычныя акцэнты. Яго ідэйнае «зерне» — у блізкасці твора сучаснасці. Канфлікт Спартака і Краса вызначае асноўны змест харэаграфіі яго пластычную і інтэлектуальную гармонію.

У палётных скачках, імклівых вярчэннях, дынамічных і скульптурных позах, у адухоўленым высакароднымі ідэаламі ўнутраным абліччы Спартака (М. Красоўскі) — героіка узнята да трагічнага пафасу.

Выразна акрэслены «маральны патэнцыял» і іншых герояў — драматычнай і душэўна чыстай Фрыгіі (Л. Ражанава), хітрай і каварнай Эгіны (А. Карзянкова), шчырага ў сваіх пачуццях Гармодзія (В. Міронаў).

Ёсць у спектаклі народныя сцэны, якія сцвярджаюць «звышзадачу» балета, яго сучасныя акцэнты, напрыклад, карціна-апошняга бою спартакаўцаў — прынцыпова важная для разумення пазіцыі рэжысёра. Высакародны ідэал свабоды абуджае духоўны ўздым народных мас. У спектаклі адчуваецца духоўная блізкасць Спартака нашай эпосе. Гістарычная і сацыяльная праўда сцэнічнага твора хвалюе розум і кранае сэрца, бо перададзена выразнай мовай танца.

Высокі маральны патэнцыял і ў Сольвейг («Пер Гюнт»). Л. Бржазоўская згодна з музыкай Э. Грыга і задумай Дадзішкіліяні расказвае пра светлыя ідэалы маладой жанчыны, пра яе пяшчотныя пачуцці, якія не страчаны пад уплывам перажыванняў і няўмольнага часу.

**Можна не сумнявацца ў добрых намерах А. Дадзішкіліяні знайсці танцавальную мову, адэкватную музыцы Я. Глебава («Альпійская балада», «Выбранніца»). І тут пазіцыя рэжысёра-балетмайстра не выклікае сумненняў. У яго пошуках ёсць плён. Асабліва ў балеце па матывах таленавітага твора Васіля Быкава.**

**На аснове сімфанічнага, паэтычна-абагульненага танца, у адпаведнасці з музыкай і аповесцю дадзена новая, не інтымна-сентыментальная, а герoіка-рамантычная трактоўка «адвечнай» тэмы любві.**

Каханне Івана і Джуліі — подзвіг, эмоцыі, якія надаюць крылы мужнасці. Пачуццё герояў «мацней за смерць» і перамагае ўсе перашкоды. Гэту думку сцвярджаюць

Ул. АЛЯХНОВІЧ

# БЕЛЫЯ СНЫ



НАВЕЛА

У маленькі гарадок на Прыпяці прыйшла вясна. Прыйшла так нечакана, што, здавалася, недзе за бліжэйшым ляском яна ўжо даўно чакала, каб раптам абрынуцца нястрымнай сілай сонечных промняў, птушыным гвалтам і разлеглым рэхам прыпяцкага крыгаходу.

Яшчэ зранку рассеялася, спаўзла кудысьці за небасхіл бялёсая смуга. Зайграла сонца. Лозы, што яшчэ ўчора тырчалі з лёду, як стальныя драціны, памякчэлі, запружынілі пад ветрам, запахлі рачным водарам. Вольна, нават гарэзліва зашасталі пасмылі леташняй травы, скідваючы з сябе зімовы бруд. Асляпляльна заблішчала на сонцы сасновая трэска, што ўсю зіму праляжала ў лёдавым сховішчы. Пярэсты кот — белае з чорным — залез на кроквы недабудаванай хаты і старанна мые лапай пыску.

Загаманіла Прыпяць. Спачатку далятаў сюды толькі глухі далёкі грукат. Здавалася, што недзе вышэй па рацэ вялікі і цяжкі абоз едзе на драўляным мосце. Паступова гэты грукат набліжаўся, рабіўся больш выразным. Усё часцей і часцей уздрыгвалі прыбярэжныя таполі і вербы, узнімаючы з вершалін крыклівыя чародкі гракоў. Па бліскучым мокрым лёдзе яшчэ бегалі, коўзаючыся, бесклапотныя і крыклівыя, як тыя гракі, хлапчукі. Занятыя гульнёй, яны не звярталі ніякай увагі, што іх чаравікі і валёнкі даўно прамоклі, што лёд трэскаецца, а на яго паверхню праступае вада. Хлапчукі весела ганялі іржавую бляшанку, высока ўзнімаючы срэбныя пырскі.

Раптам хлапчукоў быццам ветрам здзьмула. І адразу, недзе зусім блізка, пачуўся магутны трэск. Раку на цэлыя кіламетры прарэзалі вялікія трэшчыны.

О, гэтыя маленькія палешукі! Усё іх жыццё, ад самых першых крокаў, звязана з Прыпяццю. Яны добра ведаюць звычкі сваёй ракі, па самых маленькіх прыкметах, недаступных слыху і воку чужога чалавека, беспамылкова вызначаюць — калі і адкуль чакаць небяспекі. Напэўна таму з ганкаў і вокнаў дамоў не выглядаюць і не крычаць на іх маткі: ведаюць, што з імі на рацэ нічога не здарыцца.

Трэшчыны паступова шырыліся, злучаліся адна з другою, утвараючы рознай велічыні і формы крыгі. Кожная крыга, аддзяліўшыся ад зімовага маналіту, пачынала самастойнае жыццё. Гэтыя халодныя дзеці Прыпяці спяшаліся заявіць, што яны ёсць, нарадзіліся і з'яўляюцца паўнапраўнымі членамі вольнага царства. А воля ёсць воля: тут кожны можа паказаць сваё буйства, пахваліцца сілай, пацягацца з другім. Спачатку крыгі лёгенька штурхаліся. Але, відаць, яны ўвабралі ў сябе неспакойны нораў сваёй Прыпяці-маці, і таму ніхто нікому не хацеў саступаць з дарогі. Больш буйныя ільдзіны налятаді на меншыя, тыя агрызаліся, але не маючы сілы цягацца з большымі, у злосці і шаленстве кідаліся на меншых сясцёр сваіх. Паветра скаланаў трэск, грукат.

...У гэты гарадок мяне прывяло вялікае гора — моцна захварэў добры мой і даўні сябра. Па некалькі разоў на дзень я прыходзіў у драўляны будынак бальніцы, што стаіць над самай ракою, і кожны раз мне адказвалі адно і тое ж: «У палату нельга, яму горш.»

Ідучы ўздоўж берагу, я глядзеў навокал і думаў: якую незвычайную сілу мае сонца. Вось выглянула і ўчыніла на рацэ гэтую бойку, абудзіла да жыцця лозы і непрыкметную травінку, загнала ката аж на самыя кроквы, разварэдзіла ў некага даўно забытыя мары. А для майго сябра яно выглянула, напэўна, каб развітацца ці падражніцца пяшчотай свайго цяпла. Ад гэтых думак у мяне на душы стала яшчэ больш неспакойна і маркотна, не хацелася радавацца сонцу, веснавому ветрыку, раскаванай Прыпяці.

У задуменні я амаль не натыкнуўся на лаўку, што прытулілася за ракітавым кустом. «А, гэта вы»... — пачуўся нечы голас. На пачарнелай ад часу лаўцы сядзеў хлопец гадоў дваццаці-дваццаці двух у чорных акулярах. «Паспеў нацешыцца сонцам» — з непрыязню падумаў я і хацеў прайсці міма. Але нешта на імгненне затрымала мяне. Напэўна, твар хлопца — доўгі і бледны, занадта бледны нават на згоне зімы. Хлопец сядзеў, прыхінуўшыся бокам да спінкі лаўкі, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні шэрага парусінавага плашча. Доўгія валасы спадалі пасмамі на скроні і лоб.

«За каго ён мяне прымае?» — мільганула думка. І, каб неяк выйсці з няёмкага становішча, сказаў:

— Выйшаў вось трошкі прайсціся.

Хлопец заварушыўся, выняў рукі з кішэняў, вусны яго крануліся ў бязгучнай усмешцы.

— Прабачце, калі ласка, тут адзін дзед часта

# ШУКАЛЬНІК У ПОЧАЦЕ ПАТРАБАВАЛЬНАЙ МУЗЫ...



усе харэаграфічныя асацыяцыі і танцавальныя метафары.

У вобразе італьянкі (К. Малышава) дасягнута нацыянальнае інтаніраванне класікі. Балетмайстар, следам за кампазітарам, механічна не паўтарае традыцыйныя па-дэ-дэ і маналогі. Ён шукае новыя «фразы» для выяўлення ідэалаў, душэўных імкненняў герояў і іх настрою.

**Нельга не заўважыць настойлівых пошукаў харэаграфічнай выразнасці, адпаведнай партытуры глебаўскай «Выбранніцы». Адсутнасць у музыцы фальклорных цытат і прысутнасць у ёй сімфанічна абагульненага нацыянальнага каларыту ўскладняла задачу балетмайстра. Музыка была «пракаменціравана» танцам далёка не з той глыбінёй і стылявой асаблівасцю, якая ўласціва твору.**

**Есць знаходкі ў вобразе Машэкі (М. Грышчанка) у сэнсе сучаснага гучання думак купалаўскага казачнага героя. Асобныя эпізоды, маналогі хвалююць рамантычнай танальнасцю. Балетмайстар і артыст у некаторых карцінах знайшлі сацыяльны эквівалент учынкам Машэкі і адмовіліся ад трактоўкі яго пратэсту толькі як помсты за зняважаныя пачуцці кахання і гонару любай. Герой набыў больш выразныя грамадскія рысы.**

Гуманістычная тэма гучыць і ў спектаклі «Рамэа і Джульета» С. Пракоф'ева. Тут небагата акцёрскіх удач ва ўвасабленні шэкспіраўскіх вобразаў, але ў кожнай партыі ёсць эмацыянальна-псіхалагічны падтэкст, у якім выяўлены сумны лёс закаханых сэрцаў і суровае напружанне чалавечых страсцей.

У лепшых сцэнах і эпізодах пацверджана здольнасць балетмайстра «чытаць» партытуру з пазіцый сучаснасці і расквечваць харэаграфію новымі пластычнымі кампазіцыямі. Класічны танец асэнсаваны на ўзроўні нашага «сёння», дамінуе над іншымі выяўленчымі элементамі.

Але ці можна гаварыць аб прынцыпова важных, самабытных адкрыццях у беларускай нацыянальнай харэаграфіі, якія былі, напрыклад, уласцівы А. Ермалаеву («Салавей» М. Крошнера)?

Вядома, што Ермалаеў дамагаўся сінтэзу нацыянальнай танцавальнай мовы з інтэрнацыянальнай лексікай. У выніку нарадзіўся рэалістычны спектакль з жывымі, разумнымі героямі Сымонам (С. Дрэчын) і Зоськай (А. Нікалаева). У іх сацыяльныя і нацыянальныя рысы арганічна з'ядналіся.

На жаль, А. Дадзішкіліяні творча не прадоўжыў наватарскіх пошукаў А. Ермалаева.

Што спрэчнага ў «Альпійскай баладзе»? Партыя Джуліі, музычна пабудаваная на аснове тарантэлы, у выкананні К. Малышавай прагучала ў багацці інтэрнацыянальных і нацыянальных фарбаў. Яна пяшчотная і мужная, рамантычная і смелая, настойлівая ў абароне свайго шчасця і па-жаноцку чулая італьянка.

А ў вобразе Івана (Л. Чахоўскі), за выключэннем некалькіх рухаў «Крыжачка», няма нацыянальнай пластыкі, беларускіх танцавальных інтанацый. Гэта спрасціла адлюстраванне пачуццяў героя, збядніла яго душэўныя сувязі з роднай зямлёй і народам. Такі падыход перашкаджае стварэнню цэласнага партрэта, сцвярджэнню яго паэтычнага хараства. Ці варта было так абыякава абыходзіцца з традыцыямі папярэднікаў, мінаць іх здабыткі?

Крытычныя дакоры былі зроблены ў друку і ў час абмеркавання спектакля «Выбранніца».

**У чым пралікі рэжысёра? У няпоўнай адпаведнасці сцэнічнага ўвасаблення балета правільным установкам харэографа і зместу музыкі.**

**«Наталька і Машэка,— гаворыць А. Дадзішкіліяні,— чыстыя, адкрытыя, верныя свайму высокаму пачуццю, ўвасабляюць лепшыя рысы нацыянальнага беларускага характару». Артыст М. Грышчанка сказаў: «...Машэка блізкі мне тым, што ён — беларус, палымяны змагар за праўду, супраць зла і гвалту». З такімі агульнымі думкамі аб галоўных героях няма падстаў спрачацца. І прынцыпова такая трактоўка балетмайстрам герояў купалаўскіх класічных паэм была зразумелай. Але ці здзейснены ў вобразах гэтыя намеры аўтараў і выканаўцаў харэаграфічнай партытуры?**

**Пярэчанні выклікае Наталька (А. Карзянкова, Н. Давыдзенка) — цэнтральная гераіня спектакля. Пасіўны, нетэмпераментны танец, інтэлектуальная збедненасць дзяўчыны, невыразныя акцёрскія сродкі выяўлення яе душэўных ваганняў замінаюць паказу трагічнасці канфлікту Натальні з князем і асяроддзем.**

**У творах Змітрака Бядулі і купалаўскіх паэмах ёсць істотная розніца паміж вобразамі Зоські («Салавей») і Натальні. Затое ёсць і агульная рыса — незадавальненне рэчаіснасцю і палымяны духоўны пратэст супраць яе. Актыўнага пратэсту вобраз «Выбранніцы» ў спектаклі, па сутнасці, пазбаўлены.**

**Гарачыя пачуцці, высокая чалавечая годнасць і гатоўнасць абараніць сваё «я» ўзнікаюць у Натальні толькі «пад заслону». На працягу ўсяго спектакля псіхалагічная дамінанта дзяўчыны — сляпая пакорлівасць князю, сумнаму лёсу, няздольнасць абараняць сваё шчасце.**

Калі б нават большасць іншых персанажаў былі вырашаны адэкватна характару музыкі і лібрэта, збедненасць аднаго з галоўных вобразаў парушае ідэйна-эстэтычную канцэпцыю твора. Не вельмі паслядоўна даецца развіццё вобраза Байміра. Фрагментарна выглядае партыя Машэкі, дзе побач з пераканаўчымі танцавальнымі выказваннямі з'яўляецца эмацыянальна халодныя, «пустыя» эпізоды.

У лібрэта напісана, што пасля сялянскага паўстання супраць князя і вызвалення з няволі Натальні, яна і Машэка «радуюцца свайму каханню». Якраз гэта слаба матывавана драматургіяй, папярэднім развіццём вобразаў і канфліктаў. Апафеоз у балеце выглядае непадрыхтаваным унутранай дынамікай эмоцый герояў.

Поліфанічная, рытмічна разнастайная музыка, паэтычнае лібрэта А. Вярцінскага і А. Дадзішкіліяні давалі больш шырокую прастору для харэаграфічнага мыслення, роскіту балетмайстарскай фантазіі і стварэння выдатнага харэаграфічнага твора на тэмы купалаўскіх паэм.

Шкада, што многае з паэтычнага багацця літаратурнай першакрыніцы і музыкі не прагучала ў спектаклі. Відаць, харэограф цьмяна вызначыў «звышзадачу» пастаноўкі.

Пастаноўка «Альпійскай балады», асобныя сцэны і харэаграфічныя кампазіцыі ў розных спектаклях, бліскучыя вобразы (Няўзіра — К. Малышава) пацвердзілі здольнасці балетмайстра самастойна і глыбока «мысліць танцам». А вось «Выбранніца», як завершаны твор, засталася эклектычнай па малюнку. Яна варта новых намаганняў і настойлівых пошукаў балетмайстра на аснове цудоўнай купалаўскай паэзіі і прафесійна сталай музыкі. Мы верым у тое, што садружнасць Я. Глебава, А. Вярцінскага (добрага знаўцы купалаўскага эпасу і лірыкі), А. Дадзішкіліяні, Т. Каламійцавай і Я. Чамадурава ў дапрацоўцы спектакля прынясе большы плён, чым у цяперашнім варыянце балетнага прадстаўлення.

Цяпер адносна «Рамеа і Джульеты». Ставіць такі твор вельмі складана. Гледачы ведаюць таленавітую пастаноўку Лаўроўскага, Г. Уланаву ў ролі Джульеты, М. Габовіча — Рамэа.

У спектаклі нашага тэатра цэнтральныя вобразы — слабейшыя за эпізадычныя. І гэта зніжае трагічны пафас твора. К. Малышава — Джульета віртуозна выканала танцы гераіні, а псіхалагічная глыбіня вобраза засталася недастаткова раскрытай. Танец Уланавай — Джульеты быў, як вядома, гармоніяй пластыкі і думкі, эмоцыі і інтэлекту. Без гэтага сінтэзу балетны твор выглядае збедненым.

Засмучае стылёвая невыразнасць асобных спектакляў балетмайстра, цьмянасць нацыянальнага каларыту, пэўная раскіданасць «мовы». Часам майстар у сваіх пошуках спыняецца на паўдарозе, не завяршае эскізна абазначаныя наватарскія намеры.

**У апошні час зніклі з рэпертуару творы беларускіх кампазітараў, якія заслужылі прызнанне і стварылі тэатру добрую славу — «Салавей», «Князь-возера», «Святло і цені» і іншыя. Было б карысна захоўваць лепшыя з іх, каб і балетны калектыў, і мы, гледачы, маглі параўноўваць дасягнутае рознымі рэжысёрамі. Гэта ўзбагачала б і арсенал харэаграфічных прыёмаў.**

**Ад спектакляў, якія пастаўлены Дадзішкіліяні, чакаем гармоніі думкі і пачуцця, стылёвай еднасці шматкаляровасці — пяшчотнага лірычнага жывапісу і суровых жыццёвых фарбаў. Ён умее дасягаць гэтага, толькі робіць сваю справу не заўсёды паслядоўна.**

Можа каму-небудзь здасца, што парады, якія тут даюцца здольнаму харэографу, — элементарныя. Што ж, будзем спадзявацца, што «голас з залы» не будзе лішнім у тых спрэчках і дыспутах, што вядуць прафесіяналы-практыкі балетнага мастацтва. У гэтыя дні мінчане знаёмяцца з новым спектаклем Дадзішкіліяні — балетам «Пасля балю» Г. Вагнера. І ўсе зноў пераконваюцца, што ён мастак, якога не вабяць торныя дарогі: яго стыхія — пошук.

**М. МОДЭЛЬ.**

---

ходзіць, дык я падумаў — ён, — прастадушна сказаў хлопец.

«Відаць сляпы» — вырашыў я. А хлопец, пасунуўшыся на лаўцы, дадаў:

— Калі маеце час, сядайце, разам весялей будзе.

Я сеў. Мой сусед, адчуўшы, што прапанова прынята, умасціўся лацвей, адкінуўшы голаў на спінку лаўкі і падставіўшы твар сонцу. Ён маўчаў. І было няўцям, ці чакае, пакуль загавару я, ці прыслухоўваецца да навакольных гукаў. Загаварыў хлопец нечакана і ціха, таму падалося, што ён працягвае раней пачатую гаворку.

— Сёння ўвесь дзень слухаю крыгаход. Як цудоўна і здарава, калі прырода гаворыць у поўны голас. Здаецца, што ў яе гэта даўно збіралася, накіпала.

Сусед зноў ледзь прыкметна ўсміхнуўся і дадаў:

— Накіпала, я сказаў бы, на сэрцы. І вось прарвалася, забурліла.

На высокай таполі, што стаяла, утыркнуўшыся тоўстым камлём у ваду, азваўся шпак. Ён сядзеў на самай вершаліне і нагадваў трапяткі камячок. Галінка дробна дрыжала, а гукі шпачынай песні выразна далятала сюды праз грукат і шум крыгаходу.

— Як хараша спявае, якое багацце голасу, — амаль урачыста сказаў хлопец. Трошкі памаўчаў і ціха прамовіў. — Шкада, што не бачу яго.

Твар у майго суседа спахмурнеў. Вузкай белай рукою ён паправіў акуляры, адкінуў з ілба валасы.

— Некалькі месяцаў назад я гэта ўсё бачыў. Ды здарылася аварыя... Толькі што выпісалі з бальніцы...

Сляпы ўздыхнуў на поўныя грудзі і рашучым голасам дадаў:

— Але нічога, нічога... Вось пройдзе крыгаход, пачне хадзіць паром, збяруся і — дамоў. А там усё інакш пойдзе.

Запанавала маўчанне. Відаць, мой сусед думаў аб нечым сваім. А яму было аб чым падумаць, я ў гэтым не сумняваўся. Хлопец, напэўна, нарадзіўся недзе ў палескай вёсцы, бегаў з аднагодкамі гуляць на рэчку, у лес, хадзіў у школу. Калі падрос, разам са старэйшымі выносіў копкі сена з багны, абганяў бульбу, пасвіў кароў. Потым паехаў у горад, уладкаваўся на завод. Там жыццё пайшло рухавей, весялей: інтэрнацкая кампанія, танцы, турысцкія паходы... Але аднойчы здарылася аварыя — можа, узарваўся нейкі кацёл, і сонца для яго пагасла назаўсёды.

— У пачатку мая ў нас зацвітаюць сады, — парушыў маўчанне хлопец. — Вы нават не ўяўляеце, як тады прыгожа. Будуць ціхія цёплыя дні — ні ветру, ні хмурынкі ў небе. Ляжаш ранічай у садзе на свежы мурог і глядзіш на спляценне галін і кветак. Лісцікі яшчэ маленькія, ліпкія, а кветкі ўжо ў поўнай сіле. Вішнёвыя пялёсткі белыя-белыя і танюсенькія, аж свецяцца. Слівовыя кветкі драбнейшыя, але цвітуць такімі шышакамі, што аж галіны белыя. Яблыневыя — вялікія, махровыя, кожная нагадвае маленькую чашачку з найтанчэйшага фарфору. Амаль бязгучна садзяцца на кветкі пчолы, пахне мёдам. І так лёгка дыхаецца. Здаецца, ляжаў бы бясконца доўга і глядзеў на ўсё гэта. Але мяне пакліча маці — яна падаіла ўжо карову і на стале стаіць збанок цёплага пеністага малака...

Хлопец змоўк. Ён сядзеў, як і раней нерухома, адкінуўшыся на спінку лаўкі, але я заўважыў, што з ім нешта адбылося, што ўся яго істота напоўнілася ўнутранай радасцю. Паружавеў, а скрозь чорныя акуляры, падалося, заблішчалі добрыя, крыху сумныя вочы. І мне стала нібыта сорамна за свае думкі. Зрэшты, мой сябра не такі ўжо безнадзейны, ён паправіцца і будзе ўсё добра. А вось чалавек сляпы, зрок яму не вернеш, а — не адчайваецца.

Нечакана хлопец узняў галаву, нахіліўся да мяне і, як бы баючыся, што нехта нас пачуе, ціха сказаў:

— А ведаеце, у мяне ў вёсцы ёсць дзяўчына. Наташай завуць. Прыгожая вельмі. Мы даўно сябруем. Яна пакуль не ведае, што са мной здарылася...

У горле ў мяне перасеў якісь камяк, і я не стрымаўся, кашлянуў. Мой сусед, відаць зразумеў, што то быў за кашаль, бо адразу запярэчыў:

— Не, вы не падумайце, яна не такая... Яна кахае... Памятаю апошнюю нашу сустрэчу, быццам гэта было толькі ўчора. Якраз вярталіся з Наташай з клуба. Была тая часіна чэрвеньскай ночы, калі зарыва на захадзе адгарэла, а золак яшчэ не пачаў разгарацца. З цёмнасіняга неба на нас глядзелі вялікія зоркі. Яны ўздрыгвалі і нібыта ціхенька патрэсквалі, пасылаючы ў цемру хвастатыя іскаркі. Наташа тады спынілася і ласкава сказала мне: «Кажуць, у кожнага чалавека ёсць на небе свая зорка. У адных шчаслівая, у другіх — наадварот. Зоркі нешчаслівых людзей хутка згараюць і падаюць. Няхай, Андрэй, твая зорка свеціць доўга, тады і мая не ўпадзе». Як можна такой не верыць...

Хлопец зноў паклаў галаву на спінку лаўкі, прыціх. Я чакаў, што ён скажа нешта яшчэ, але чутно было толькі ціхае дыханне, ды рытмічна ўздымаліся і апускаліся грудзі. Я асцярожна падняўся і пайшоў у бок бальніцы.

На Прыпяці стала цішэй. Крыгі жвава круціліся, іх падхоплівала плынь і несла імкліва на поўдзень, да Дняпра.

Шапталіся пад сонцам акрыялыя лозы. Мне перабег дарогу пярэсты кот, што нядаўна мыўся на крокввах. Заліваўся на таполі шпак. А на пачарнелай лаўцы за ракітавым кустом сніў белыя сны чалавек, што так даўно не бачыў сонца.

# З НОВАЙ ІТАЛЬЯНСКАЙ ПАЭЗІІ

*Італьянская паэзія існуе трыццаць стагоддзяў. У розныя часы яна аказвала значны ўплыў на развіццё сусветнай літаратуры. У нашым стагоддзі Італія дала свету футурызм і баявую паэзію Супраціўлення, «змрочную» літаратуру перыяду фашызму (якая таксама была формай пратэсту) і пасляваенныя неарэалізм і авангардызм.*

*На жаль, мы яшчэ мала ведаем сучасную італьянскую паэзію — і на рускай, і на беларускай мове. Літаральна два-тры імя становяцца нам вядомымі ў дзесяцігоддзе. Таму існуе і даўняя думка аб камернасці, «герметызме» італьянскай паэзіі.*

*У гэтай нізцы—паэты розных пакаленняў і розных літаратурных напрамкаў. Дж. Басані і Ф. Монтэроса выступілі ў літаратуры яшчэ да вайны, а Ф. Кастабіле, Р. Раверсі, М. Бішэці — толькі ў пяцідзесятых-шасцідзесятых гадах. Але іх аб'ядноўвае адно — любоў да прэстага чалавека, пратэст супроць сацыяльнай несправядлівасці, прыгнёту. Гэта характэрна для сённяшняй паэзіі Італіі, якая, пераадольваючы «герметызм», усё больш рашуча ідзе насустрач вятрам часу.*

Франчэска МАНТЭРОСА

## ХОР ПАРТЫЗАНАЎ У МЕСЯЧНУЮ НОЧ

Спіць кіпарысавы гай, спяць магільныя пліты,
соннае трапятанне над кожнай лампаднага язычка,
быццам паганскі кінжал, пры боку пагорка
застыла бліскучай, холоднаю стужкай рака.

Спіць наваколле, скаванае холадам,
спяць маркотныя дахі між дрэваў ніцых,
быццам гіяцынты на сцяблінах высокіх,
вісяць аблачынкі на званіцах.

Але хтосьці не спіць, утаропіўшы вочы
у далягляд, што знямогся ад крывавых ран;
пра ўсе сем пакут апраметных уночы
спявае хор загінуўшых партызан.

Ад усіх жывых дужэйшыя і здаровыя,
пад небам, у якое грукае немы плач,
гэтай ноччу белыя коні паўшых герояў
адчыняць брамы могілак — і памчацца наўскач.

Як у гняздзе канаплянкі голыя,
у якіх дужэе дзюба хутчэй крыла,
кожная пакута сваёю дзюбаю грубай
здзяўбе чорнага чарвяка зла.

Спіць зямля. А ты каго клічаш, кветка, чаго плачаш
у жорсткай безвыходнасці сваіх шыпоў!
Над антэнай партызанскага перадатчыка
робяць крывавыя знакі здраднікі зноў.

Для каго ты грукочаш, молат грому,
па гулкім кавадле далёкіх гор!
На гадзінніку вежы гукі бомаў
трывогу нясуць у бязмежнасць зор.

Для каго ты, разбіваючы ланцугі навальніцы,
успыхваеш у небе, маланка-страла!
Крычыць сэрца: праўда — гэта сякера
што рассякае быка ўздоўж хрыбта, напалам.

І для каго гучыш ты, срэбная песня,
над пустой дарогай, маркотнай зімой!
Для каго зіхціш ноччу ветранай, Месяц,
агнём на фоне ценяў, нязгаснай красой!



Мал. Я. ГОЛЬБЫ.

Джорджыо БАСАНІ

## ЭМІЛІЯ

Там, дзе цячэ задуменна
рака лугамі мурожнымі,
едзе на возе сена
старац — кароль заможны.

Шапоча сумныя словы,
п'яны садоўнік бядоты,
падпёршы рукою голаў
марыць пра умалоты.

«Людзі, — мармыча, — людзі,
чырвоныя сцягі галечы,
карона мая — лятункі,
царства маё — пустэча».

Раберта РАВЕРСІ

## СУСТРЭЧА ПА БОКСЕ

Гул захаплення, крывавыя воклічы,
пляцоўка зіхціць, палымнее сцягамі,
баксёр прыкладае да рота прымочку
і помсты прагне.
Быццам глыба, ад скалы адарваная,
грукаецца вобзем, усхопліваецца зноў,
уцячы нельга — і, апантана,
кідаецца на ворага, выціраючы кроў.
У трывожным бляску пражэктараў-сонцаў,
сярод тлуму, ляманту, прагных воч
раптам крык чалавечы болю бясконцага
распорвае ноч.
А праціўнік яшчэ лютуе,
бы маланка, гойсае па асветленым квадраце,
І вось — чалавек вісіць грудзьмі на канаце,
апусціўшы голаў, быццам слухае
самой матухны-зямлі таямніцы.
Страх, недаўменне, злосная радасць,
прага крыві: «яшчэ каб выстаяў!»
Глоткі перасохлі — людзі
выказваюць захапленне свістам.
Паважная стрыманасць
ушчэнт разбіваецца аб цэментную падлогу,
жыццё чалавека — па пятаку.

Пажылы арбітр, увесь у белым, як здань,
абвяшчае перамогу
і шчасліўцу ўзнімае руку.

Марыя БІШЭЦІ

## КОЛЕРЫ РОДНАГА ГОРАДА

У вачах маіх чырвонае лісце
дзікага вінаграду,
што караскаецца на мураваную сцяну,
быццам хоча ўцячы.
У сэрцы маім жоўтае лісце
старых платанаў у прысадах
[мае продкі пасадзілі тыя платаны,
калі думалі пра наша з'яўленне].
Мой горад увесь — з зіхатлівых колераў,
як я магу не любіць яго!

Ён лёгка змяшчаецца ў маіх вачах,
у маім сэрцы — такі маленькі.
Таму ён заўжды са мною,
у кожнай дальняй вандроўцы:
я бяру яго з сабой, каб
ніколі не быць адной.

Франка КАСТАБІЛЕ

## ГАСПАДАР

Зямля,
якой я крочу
на золку ранні́м —
гаспадарова.

Жыта,
што спрэс красуе
прыгожым ранкам—
гаспадарова.

І стрэлы,
якія чую
над рэчкай ціхай —
гаспадаровы.

І ўсе жанчыны,
і смех у ёўні
ў спякотны поўдзень,
як ўсё навокал, —
гаспадаровы.

І толькі сонца
ўсім свеціць роўна,
яно — не гаспадарова.

Пераклаў з італьянскай А. ШАЎНЯ.





Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне паэту Рыгору Барадуліну з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора—смерці МАЦІ Куліны Андрэеўны.

●

Калектыў рэдакцыі часопіса «Полымя» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела паэзіі Рыгору Барадуліну з прычыны вялікага гора—смерці яго маці Куліны Андрэеўны.

ку. Цікавасць у Балгарыі да беларускага гумару расце. Зусім нядаўна і наш «Стършел» надрукаваў гумарыстычныя мініяцюры Л. Прокшы.

Але пра што пісалі ўсе нашы газеты сапраўды шмат, дык гэта пра гастролі Дзяржаўнага ансамбля танца БССР пад кіраўніцтвам Аляксандра Апанасенкі. Канцэрт гэтага калектыву, які адбыўся 16 сакавіка ў будынку Нацыянальнай оперы, трансліраваўся па тэлебачанні. Зала на 1 500 месц была перапоўнена. І затым, калі ансамбль паехаў з канцэртамі па іншых буйных гарадах Балгарыі, усе вельмі шкадавалі, што ў Сафіі беларускія танцоры выступілі ўсяго адзін раз.

Вось некалькі водгукаў нашых сталічных газет. «Работническо дело» друкавала матэрыял пра выступленне ансамбля двойчы — першы раз адразу пасля канцэрта, назаўтра, і другі раз, ужо з каментарыямі, 19 сакавіка. Пад рубрыкай «Културен бележник» быў надрукаваны артыкул музыказнаўцы Т. Тэадосіева. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «...Важная, характэрная асаблівасць калектыву—перш за ўсё маладосць выканаўцаў. Мастацкая каштоўнасць выканання заключаецца ў непадробнай свежасці, надзвычайнай эмацыянальнасці, якая разбурае бар'еры паміж сцэнай і гледачамі, з якімі калектыў адразу ўступае ў непасрэдны кантакт... Паказаная нам праграма радуе сваёй разнастайнасцю. Разам з беларускімі танцамі, якія складаюць аснову праграмы, мы бачылі ўкраінскія. цыганскія, а таксама такія пастаноўкі, як «Паўлінка», «Тачанка», якія з'яўляюцца своеасаблівымі п'есамі. Характэрная асаблівасць большасці танцавальных нумароў — тэндэнцыя да сюжэтнай і тэматычнай распрацоўкі, што ідзе перш за ўсё па лініі апявання радасці жыцця і чыстага гумару, якія так характэрны для беларускага фальклору. Моцнае ўражанне пакідаюць такія пастаноўкі, як «Беларуская рапсодыя» і ўкраінскі «Гапак», ...а таксама «Беларуская кадрыля», «Сувенір», «Цыганская рапсодыя». Асабліва хацеў бы я падкрэсліць высокае тэхнічнае майстэрства салістаў мужчынскага саставу, якія месцамі дасягаюць бліскучай віртуознасці; жаночага саставу, які праявіў сябе цудоўна і па-жаночаму пяшчотна... Беларускі дзяржаўны ансамбль танца заслужана быў узнагароджаны поўнымі захаплення апладысментамі сафійскай публікі...»

А Д. Цэнаў у артыкуле «Беларуская рапсодыя» («Отечествен фронт» ад 17 сакавіка г.г.), акрамя падрабязнага апісання нумароў праграмы, расказу пра ансамбль, заўважае: «...Адна з лепшых якасцяў ансамбля — перанаўчае данясенне харэаграфічнага тэксту разам з глыбокім раскрыццём зместу кожнага пасобку танца... Асабліва хвалюе героіка — апавядальная харэаграфічная мініяцюра «Тачанка», якая сваім цікавым рашэннем і арыгінальнасцю харэаграфічнага малюнка ўзнаўляе вялікі подзвіг савецкіх воінаў..» У гэтым артыкуле аўтар піша таксама і пра кіраўніка калектыву А. Апанасенку, пра асобных выканаўцаў.

Штотыднёвік «Народна култура», які выходзіць у нас па суботах, адгукнуўся артыкулам вядомага нашага музыказнаўцы Віялеты Консулавай — «Вечна жывое савецкае мастацтва» (нумар газеты ад 20 сакавіка). Аўтар таксама падкрэслівае чысціню харэаграфічнага малюнка, расказвае пра выкананыя танцы.

Безумоўна, сляды, якія пакінуў ансамбль пад кіраўніцтвам А. Апанасенкі ў Балгарыі, уздзеянне яго на нашы прафесійныя і непрафесіянальныя калектывы, вельмі вялікія. Яны будуць аказвацца ў нас яшчэ не адзін год. Ад сябе ж я толькі дабаўлю, што мастацтва гэтага ансамбля сапраўды дастойна нашай вялікай дружбы.

